 

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 12 (1975) ГОД XXXIX | БЕЛАСТОК 20 САКАВІКА 1994 г. | ЦАНА 4000 зл.

## XXV АГЛЯД — І ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ



*Анна Богус, Мар'я Вярбіцкая і Аля Дубец захапілі ўсіх.*

Першы фестываль, а інакш — XXV агляд „Беларуская песня'94" на гэты раз праводзіўся не ў беластоцкай філармоніі, а ў зале спартклуба „Влукняж". У першы, суботні конкурсны дзень (5 сакавіка) змаганням найлепшых спевакоў з Беласточчыны і Гданьска прыслухоўвалася „горстка" публікі — недзе каля 500 асоб, якія ніклі ў халодным, белым святле, падаючым са шкляных сценаў залы (канцэрт пачаўся а 10 гадзіне), раскінутыя групкамі на драўляных лавах і счэпленых дранкамі пластмасавых чорных крэслах. Пад вечар артысты выступалі ў залатым крузе электрычнага святла, якое паспрыяла больш інтымнаму настрою.

Міжнароднае журы (Ежы Сьрудкоўскі, Ніна Баршчэўская, старшыня Міхась Дрынеўскі, Андрэй Бандарэнка і Віктар Губіч) мела ацаніць выступленні „71 выканаўчай адзінкі". Конкурс працягваўся за восьмую гадзіну вечара, і журы працавала яшчэ доўга ноччу.



*Дзяўчаты з гайнаўскага белліцэя — А. Гаўрылюк, А. Пракапюк і І. Дунда.*

Вельмі цешыць тое, што конкурс беларускай песні набраў маштабаў. Яшчэ ніколі ў аглядзе не было столькі ўдзельнікаў, хаця аматараў, але выступаючых прафесійна мастацка. Мова тут не толькі пра музычную падрыхтоўку, але і ўвесь мастацкі імідж. Пачынаючы ад трыё „Рэм" з Беластока да бельскай „Маланкі", якая агляд закончыла.

Трошкі праблемаў было з самой „праграмай" выступленняў, не размножанай ў дастатковай колькасці, што было клопатам не толькі для журы, але і для выканаўцаў і для людзей, якія рыхтавалі запісы песень на касету. Чарговасць выступленняў пастаянна мянялася, уваходзілі артысты, якіх не было ў спіску, дзіўны быў таксама прынцып запісвання прозвішчаў, назваў і загалоўкаў песень. Агляд быў беларускі, калектывы маюць свае канкрэтныя назвы — „Арэшкі", „Красуні", „Цаглінкі", „Дваранкі", а не „Ажэшкі", „Красуне", „Двожанкі", „Цэгелкі", вёскі маюць свае назвы, напрыклад Дабрывада, і артысты прыехалі з Дабрывады, а не з „Добрэйвады", а спадара Юрку Налівайку хопіць ужо на кожным аглядзе называць „Налевайко"! І для міжнароднага журы варта было б зрабіць — гэта не ветлівасць, а абавязак! — спісак па-беларуску. Дзяўчаты, якія вялі агляд у першы дзень (так як і ў мінулым годзе) стваралі такія моўныя гібрыды, што аж скрыгітала ў вушах і ў сэрцы, чуючы ў кожным слове памылкі! У кожным слове! Ці кагосці прымушаюць пхаца на сцэну, перад публіку, калі не ведае мовы і яе не вучыцца? Прыдалася б некаторым грамулька самакрытыкі, гонару і сумлення. Тым больш, што былі прапановы іншых асоб весці першы дзень агляду, а, дзякуючы Богу і беларускаму духу, маем на Беласточчыне з чым паказацца людзям!

Найбольш папулярнымі песнямі былі „У канцы грэблі шумяць вербы", „У месяцы верасні" (калісьці адкрытая гарадоцкімі жанчынамі) і „Ой, ляцелі гусі...", кожны раз выкананыя іначай, цікава, з тэмпераментам. Але было відна, што наша публіка хоча песень вясёлых, дынамічных, пры якіх можна хоць бы папляскаць у далоні, і крыху „шумела" пры старажытных, жаласлівых песнях, выцягнутых з куфэркаў памяці і забыцця Ірэнай Лукшай (наша Аўрора) з Мора („Выйшла з касцюленька", бясконцае „Вяселенько-прыданенько"), **Вольгай Ахрымюк** (III месца) з Чыжоў („Скрыпка іграла" і ананімная „Жыву ў Нямеччыні"), **„Красунямі"** з Краснага Сяла (III месца, песня „Ой, оддала мэне маты"), **Валянцінай Міцэвіч і Зосяй Кердалевіч** з Дашоў („Выпраўляла маты сына ў солдаты", „Ой, там на горы"), **квартэтам з Дабрывады** („Туга моя, туга"), **Еўдакіяй Гаўрылюк** (II месца) з Крывое („Вэрбо, вэрбо кучэрава"), **Еўдакіяй Маркевіч** (вылучэнне) з Дашоў.



*Валянціна Міцэвіч з Дашоў і „басаўская" моладзь на гала-канцэрце „зазнялі" стаячыя месцы.*

У катэгорыі аўтэнтычных фальклорных песень II месца атрымаў **квартэт „Каліна"** з Дашоў, а III — **квартэт „Любашкі"** з Дабрывады, а сярод вакальных калектываў, апрача „Красуняў" (III месца), II — **„Арэшкі"** з Арэшкава і **„Тыневічанкі"** з Тынявіч, III — **„Любашкі"** з Дабрывады.

У „апрацаванай фальклорнай песні" I месца журы прызнала бельскаму дуэту **Багуслава Карчэўская—Аліна Ваўранюк** („Сонца ўсходзіць і заходзіць" і „Ой, ляцелі гусі") і дуэту **Люба Гаўрылюк—Уладзімір Іванюк** з Беластока („Каліна-маліна", „Люба мая, люба"), II — **тэрцэту „Рэм"** (Міхась Лашэвіч, Павел Лаўрашук, Крыштаф Тарасюк) з Беластока („Сын і матуля") і **сямейнаму трыо Гаўрылюк—Дубец** з Беластока (тэмпераментна выканана „Быў у мяне белы конь"), III — **мужчынскаму квартэту „Чыжавян"** („У полі бяроза") і маладому гурту **„Грант"** з Грабянёў („вясельныя" „Як дзеўка йшла замуж" і „Верце, дзяўчаты"). Вылучылі **тэрцэт з гайнаўскага беларускага ліцэя Аня Гаўрылюк, Аня Пракапюк і Ірэна Дунда**. Сярод вакальных і вакальна-інструментальных калектываў у гэтай катэгорыі найлепшая была **„Маланка"** з Бельска-Падляшскага (атрымала таксама ўзнагароду Ваяводскай управы ў Беластоку. Другое месца — **мужчынскім групам гайнаўскага і беластоцкага хораў**, трэцяе — **жаночай групе гайнаўскага хору** і хору з Гарадка („Сорак год ужо спяваем!"). Вылучылі калектыў **„Цаглінкі"** са Старога Ляўкова, **жаночую групу беластоцкага хору** і **„Чыжавян"** з Чыжоў. Трэба таксама заўважыць **мастацтва маладога калектыву з Наравкі і „Дубочкаў"** з Дубяжына (вельмі рэдка, на жаль, можам пачуць іх на нашых аглядах!).



*Нарэшце выступіла тэмпераментная „Бліскавіца".*

☞ *Працяг на стар. 10*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Litewski dziennik „Respublika” ogłosił, że wypłaci 1000 dolarów każdemu litewskiemu politykowi, któremu w ciągu 10 dni nie będzie w stanie dowieść korupcji. Dziennik chce, aby polityk stwierdził tylko, że przez ostatnie 10 dni nie brał w łapę.*
*(Kurier Poranny, nr 40)*

* * *

*W Singapurze rola związków zawodowych jest inna niż w Polsce. Nie mają prawa do rewindykacji ani organizacji strajków. Zajmują się szukaniem zysków dla przedsiębiorstwa i załogi. Z udziałów, jakie mają w przedsiębiorstwach, zakładają domy towarowe, sklepy, stołówki pracownicze, w których można kupić wszystko po niższych cenach. Słowem związki zawodowe same zajmują się organizowaniem osłony socjalnej. W Polsce działacze związkowi rozprawiają o osłonach socjalnych, podwyżkach płac, odprawach nawet gdy przedsiębiorstwo nie płaci ani ZUS, ani innych świadczeń. To znaczy, że zapłacić muszą z zysku inne zakłady, dobrze prosperujące. Pod wpływem żądań związkowców najbardziej deficytowe i najmniej konkurencyjne zakłady ogłaszają największe podwyżki cen swych wyrobów. Załogi chciałyby sprzedawać zakłady, ale kto je kupi, skoro musi zagwarantować pełne zatrudnienie, gdy do obsługi zakładu potrzebna jest jedna trzecia personelu.*
*(Rzeczpospolita, nr 46)*

**Сінгапур мае самыя высокія паказчыкі гаспадарчага развіцця. А Польшча... як відаць.**

* * *

*Ryszard Maciejkianiec —przewodniczący Związku Polaków na Litwie zarzucił władzom litewskim, że sprawy mniejszości narodowych rozstrzygają poza ich plecami. Stwierdził, że ograniczono transmisje telewizji polskiej, program dla Polaków w telewizji litewskiej przesunięto z niedzieli na piątek, a Uniwersytet Polski przeniesiono do innego budynku.*
*(Gazeta Współczesna, nr 37)*

**Пан Рышард мае асаблівае пачуццё гумару. У яго сваё тэлебачанне, школы, уні-версітэт і яшчэ наракае. Прыдалося б і нам, нацыянальным меншасцям найбольш „талерантнай” у Еўропе краіны, мець такія праблемы.**

* * *

*Szuszkiewicz miał pewne „wady”, pragnął suwerennej, europejskiej Białorusi bez broni jądrowej. Był spoza układu, a więc prędzej czy później musiał odejść. Jego zdaniem nieumiejętność rządzenia państwem wytworzyła wśród posłów i tych, którzy obecnie są przy władzy, ogromną chęć bycia wasalami. Oni nie chcą i nie potrafią ponosić odpowiedzialności za wyniki swojej polityki gospodarczej i nie potrafią rozwiązywać problemów bez podpowiedzi starszego brata.*
*(Wprost, nr 8)*

* * *

*54 urodziny prezydenta Turkmenistanu Nijazowa obchodzono jako święto narodowe. Decyzję o nowym święcie państwowym Turkmenii podjął parlament. W przeddzień urodzin wodza w zakładach pracy wypłacono specjalne premie w wysokosci 3-miesięcznych uposażeń, a każdy obywatel otrzymał bezpłatnie 10 kg soli.*
*(Gazeta Współczesna, nr 37)*

* * *

*Władze Korei Północnej rozpoczęły budowę wielkiego podziemnego mauzoleum i hermetycznej trumny, do której zostanie złożone po śmierci zabalsamowane ciało północnokoreańskiego przywódcy Kim Ir Sena.*
*(Kurier Poranny, nr 28)*

**Добра, што прынамсі ў Карэі і Туркменіі традыцыя не прападае. Ў будучыні будзе з каго браць прыклад.**

* * *

*Wiele osób miało pretensje do komunistów nie o to, że obiecywali gruszki na wierzbie, lecz o to, że na wierzbie gruszki nie rosły.*
*(Wprost, nr 7)*

**А павінны!**

* * *

*Chińczycy są jak karaluchy, niby nieszkodliwe dla człowieka, jednak gdy na nie popatrzeć, wydają się wyjątkowo obrzydliwe.*
*(Polityka, nr 7)*

* * *

*Kościół ma pieniądze, prowadzi działalność gospodarczą. Powinien się rozliczyć ze społeczeństwem, ile wydaje, bo z tego ma ulgi. Parafia ze Skarżyska Kamiennej sprowadziła bez cła samochody alfa romeo, a inna — 67 ton czekolady. Czy alfa romeo służy celom kultowym lub charytatywnym?*
*(Gazeta Wyborcza, nr 50)*

**Безумоўна, так. Свет ідзе наперад. Паслухайце толькі як гучыць: „свянцоны шакалад”, „свянцоны аўтамабіль”.**

* * *

*Zdarzyło się i tak, że przez Zabłudów przechodził Pan Jezus i zatrzymał się przy synagodze. Przed nią zebrał sie kahał i począł Pana Jezusa egzaminować. Rabin miejscowy schował pod kopańkę dziewkę żydowską imieniem Chajka i począł pytać: „Nu, jeżeli ty Bóg, nu to powiedz co jest pod tą kopańką?” I Pan Jezus odpowiedział, że pod kopańką jest ukryta świnia. I cały kahał począł się śmiać nad Jezusową niewiedzą, ale kiedy podnieśli kopańkę, spod niej wybiegła świnia i poczęła czochrać się o węgło synagogi. Żydzi byli tak osłupieni, że zapomnieli, którym bokiem czochrała się świnia o węgło synagogi. Nie mogąc zdecydować się czy mogą spożywać lewy czy prawy bok świniny jako koszerny — zarzucili wogóle jej spożywanie i po dzień dzisiejszy nie jedzą wieprzowiny wogóle.*
*(Z Zabłudowskiej Ziemi, nr 13)*

**От, такое больш-менш уяўленне заблудаўскага люду пра яўрэяў, якія ў гэтым горадзе да вайны складалі 90% жыхароў.**

* * *

*Ugrupowania polityczne w Polsce szukają kandydatów na prezydenta.*
*(Rzeczpospolita, nr 51)*

**Да часу выбараў прынамсі адна сотня кандыдатаў павінна набрацца.**

* * *

*Komisja Konstytucyjna zastanawia się, jakie zadać pytania w referendum, by zrozumieć je mógł obywatel.*
*(Polityka, nr 9)*

Obywatel najczęściej ma gdzieś pytania Komisji Konstytucyjnej i wszystkie pozostałe.

* * *

*Przeciętny obywatel Rzeczpospolitej żyje krócej i częściej choruje. Mnożą się psychozy alkoholowe i zaburzenia psychiczne.*
*(Gazeta Współczesna, nr 44)*

**А што на гэта канстытуцыя?**

# ПРАВАКАЦЫЯ?!

**У сувязі з прапагандысцкай кампаніяй абвінавачанняў і паклёпаў у сродках масавай інфармацыі, якую вядзе лідэр беластоцкай „Салідарнасці” Юзэф Ма залеўскі супраць журналістаў „Нівы”, напісаў я ніжэйпададзеную заяву ў польскую прэсу. Усе беластоцкія газеты пабаяліся, аднак, яе надрукаваць. Фрагменты апублікаваў толькі „Kurier Poranny” (н-р 51).**

**У наступным нумары „Нівы” будзе змешчаны абшырны матэрыял пра тое, што здарылася ў будынку пры вул. Сураскай 1 вечарам 10 сакавіка.**

Białystok, 11 marca 1994 r.

## Oświadczenie

W związku z wystąpieniami członków Zarządów Regionu Białystok NSZZ "Solidarność" na falach Radia Białystok i podczas wiecu na ul. Suraskiej w dniu 11 marca, oskarżającymi dziennikarzy tygodnika "Niwa" o napaść na siedzibę Zarządu, pochlapanie ścian czerwoną farbą i wreszcie "prowokację polityczną", pragnę oświadczyć, że 10 marca, istotnie, doszło do incydentu na terenie holu II piętra przy ul. Suraskiej 1, gdzie znajdują się siedziby m.in. Zarządu Regionu i redakcji "Niwy". Przebywający na bezpłatnym urlopie dziennikarz, będący w stanie nietrzeźwym, wychodząc w moim towarzystwie z redakcji stracił równowagę i postawił dwa kroki na transparencie, przygotowywanym na demonstrację "Solidarności" w dniu następnym (transparent zajmował prawie całą szerokość korytarza). Jeden z malujących transparent chlusnął czerwoną farbą ze słoika w kierunku wychodzącego dziennikarza, wskutek czego większość zawartości słoika znalazła się na jego kurtce, a także na prawym boku mojej kurtki, na wspomnianym transparencie i ścianie. Wszystko, co odbywało się do tej pory, niezależnie od jednoznacznie negatywnej oceny zachowania uczestników zajścia, mieści się w kategorii racjonalnie wytłumaczalnych reakcji, natomiast to, co zaczęło się dziać w chwilę później, pozostaje całkowicie niezrozumiałe. Jedna z obecnych na korytarzu pań oznajmiła głośno, że jest to prowokacja polityczna, i że należy o tym powiadomić policję oraz władze Związku. W kilkanaście minut później była już policja, dziennikarze radiowi i fotoreporterzy. Pani, która wcześniej odkryła "prowokację polityczną", pierwszej wchodzącej osobie tłumaczyła: "Oni nawet na korytarzu rozmawiają po białorusku!"

11 marca, o godz. 7.20 rano Radio Białystok wyemitowało oświadczenie pana Przewodniczącego Mozolewskiego, w którym stwierdził on, że "po 19 września nasiliły się prowokacje ze strony "Niwy" wobec "Solidarności". Zaznaczam, że redakcja "Niwy" w sąsiedztwie Związku znalazła się dopiero w grudniu ub. roku, po opuszczeniu pomieszczeń, znajdujących się na parterze byłego Domu Prasy, zajmowanych przez nią przez 35 lat. Nikt również z pracowników redakcji do tej pory nie przekroczył progu pomieszczeń zajmowanych przez władze Związku, jak również nasze publikacje nigdy nie mogłyby być rozpatrywane jako niechętne ruchowi solidarnościowemu.

Redakcja nie znajduje odpowiedzi na pytanie, dlaczego incydent z dnia 10 marca został przedstawiony przez władze Zarządu jako "prowokacja polityczna" i dlaczego wystąpienia w dn. 11 marca przerodziły się w antybiałoruską histerię i usilne poszukiwanie wrogów wśród naszych dziennikarzy.

Redaktor Naczelny
**Eugeniusz Mironowicz**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”**

- ➡ **Закуліссе выдання „Уліса” на беларускай мове.**
- ➡ **У вёсцы Рыбалы.**
- ➡ **Грамадская дапамога ў Бельску.**
- ➡ **„Салідарнасць” дамагаецца высяліць „Ніву”.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Прэзідэнцкая рэспубліка

Быць Беларусі прэзідэнцкай рэспублікай ці не? — спрэчкі на гэтую тэму вяліся ў палітычных колах рэспублікі гадоў са два. І вось Вярхоўны Савет падвёў рысу пад гэтымі дыскусіямі, прагаласаваўшы за прэзідэнцкую форму праўлення. Галасаванне па гэтаму пытанню адбывалася па імянных бюлетэнях на працягу трох дзён. У выніку канстытуцыйная большасць — 266 галасоў на агульны лік 340 дэпутатаў — выказалася за прэзідэнцтва. Прэзідэнт будзе выбірацца ўсенародна праўдападобна ў чэрвені г.г.

### Крытыка апазіцыі

Самай большай недарэчнасцю, якая магла адбыцца толькі ў Беларусі, назваў увядзенне сістэмы прэзідэнцтва Валянцін Голубеў — намеснік старшыні БНФ, член рабочай групы канстытуцыйнай камісіі. Паводле яго, раздзелы ў новай канстытуцыі, за якія прагаласавала парламенцкая большасць: аб Вярхоўным Савеце, аб прэзідэнце і аб мясцовых органах улады паміж сабой не ўзгоднены. Для ўраўнаважання моцнай прэзідэнцкай улады патрэбны прафесійны парламент, а не Вярхоўны Савет у ягонай сённяшняй форме. Не прадугледжана новай канстытуцыяй і вертыкальная структура выканаўчай улады, на якую абапіраўся б прэзідэнт. У выніку, лічыць Голубеў, можна чакаць або канфлікту між мясцовымі саветамі і прэзідэнтам, або спробы ўстанаўлення аўтарытарнага рэжыму.

### Прэтэндэнты ў прэзідэнты

Нягледзячы на рознае стаўленне розных палітычных колаў да інстытута прэзідэнцтва, цяпер ужо аніхто з іх не адмовіцца ад удзелу ў перадвыбарчай кампаніі. Пра магчымае вылучэнне апазіцыяй БНФ на прэзідэнцкую пасаду свайго чалавека пакуль што афіцыйна ніхто не выказаўся, але не выклівае сумненняў, што апазіцыя зробіць такі крок і што такім кандыдатам будзе Зянон Пазьняк. Менавіта як пачатак ягонай асабістай кампаніі расцэньваюць некаторыя палітыкі распаўсюджаныя падчас апошніх рабочых выступленняў лістоўкі з тэзамі перадвыбарчай платформы БНФ і з партрэтам лідэра гэтагу руху. Мала хто сумняваецца ў вылучэнні кандыдатуры Вячаслава Кебіча на пост першага прэзідэнта Беларусі, хаця прэс-сакратар прэм’ер-міністра сцвердзіў, што пакуль зарана такое казаць. Лічыць ён правільным увядзенне прэзідэнцтва, паколькі для пераўтварэння Беларусі ў парламенцкую рэспубліку не выспелі яшчэ ўмовы. Каардынацыйны камітэт Аб’яднання дэмакратычных сіл „Вясна-94” запрапанаваў кандыдатуру Станіслава Шушкевіча пад умовай, што той падпіша заснавальныя дакументы гэтага руху. Аб’яднаная дэмакратычная партыя Беларусі лічыць неабходным кансалідацыю дэмакратычных сілаў і сцвярджае, што калі БНФ зменіць свае паводзіны ў дачыненні да Станіслава Шушкевіча, а той звяжа сябе пэўнымі абавязкамі перад дэмакратычным рухам, то шанцы на абранне гэтага кандыдата значна павялічацца. Такой думкі прытрымоўваецца таксама і кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Сваю кандыдатуру на пост прэзідэнта пачаў таксама вылучаць (з ліку трыццаці дзеячоў) Саюз прадпрымальнікаў Беларусі.

### Абмен вопытам

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Алег Трусаў ад імя партыі запрасіў прыехаць у Менск і выступіць тут вядомага польскага эканаміста Лешка Бальцаровіча. Візіт аўтара польскай гаспадарчай рэформы ў сталіцу Беларусі адбудзецца напрыканцы сакавіка.

### Сустрэча моладзі

Напрыканцы красавіка адбудзецца першая сустрэча беларускай моладзі свету, ініцыятарамі якой выступілі Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына”, Саюз каталіцкай моладзі, Асацыяцыя беларускіх скаўтаў і Камітэт па справах моладзі. Удзел у сустрэчы прымуць маладзёжныя арганізацыі Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Украіны і Расеі. Яны абмяркуюць праблемы маладзёжнага руху і вызначаць шляхі далейшага супрацоўніцтва.

### Дзікая заява

„Даю абяцанне ў горадзе Ветцы памерці” — такое дзікае абавязацельства чыноўнікам мясцовай улады даюць некаторыя з тых, хто хоча прыватызаваць кватэру ў гэтым райцэнтры. Разам з афіцыйнымі дакументамі ад іх патрабуюць і неафіцыйных спецыяльных заяў на імя старшыні гарадскога савета. У ёй трэба ўказаць, што чалавек адмаўляецца ад перасялення ў экалагічна чыстыя раёны, бо жадае жыць толькі ў горадзе Ветка. Але паколькі Веткаўскі раён адзін з самых забруджаных, то многія робяць прыпіску: „У маёй смерці прашу абвінаваціць не радыяцыю, а гарсавет”. Гарадская ўлада ў сваю чаргу не хоча, каб людзі мелі кватэры і ў чыстай, і ў бруднай зонах адначасова.

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

(1)

## З мінулага...

Міхалова — мясцовасць вядомая ўжо з 1567 года пад назвай Нізбодка (генезіс назвы „Нізбодка" рэдактар Мікалай Гайдук высветліў у „Беларускім календары на 1976 год").

Назва „Нізбодка" звязана з усходняй ускраінай Блудаўскай пушчы. Тут даліна рэчкі Супраслі была вельмі балоцістай. За вярсту на паўночны ўсход ад сённяшняга Міхалова яшчэ не так даўно прасціралася дрыгвяністая багна, праз якую прабіваліся безназоўныя рачулкі з урочышча Імшар і з Гарбачоўскага возера на ім і з балот каля вёскі Падазераны. Была гэта самая нізкая і вельмі балоцістая частка пушчанскіх нетраў. І гэта дае падставу меркаваць, што паселішча ў гэтай мясціне першапачаткова атрымала назву „Ніз Блудка". Іменна „Блудка", а не „Блуда", таму што ўся паўночна-ўсходняя частка Блудаўскай пушчы называлася „Блудок", як суседняе з ёю, старажытнае мястэчка Гарадок.

Назва „Ніз Блудка" на працягу стагоддзяў перажыла некалькі пераўтварэнняў і не без уплыву польскай мовы ў пачатку XIX стагоддзя яна ўжо мела форму „Нізбудак", а ў мясцовага беларускага насельніцтва атрымала гучанне „Нізбодка". Назва „Нізбудка" па сённяшні дзень з'яўляецца міжнароднай, і ў каталогах геаграфічных назваў фігуруе якраз яна на першым месцы („Нізбудка-Міхалова"). Гэтая другая частка міжнароднай назвы мястэчка прыйшла значна пазней і пачаткова адносілася да маёнтка „Нізбодка", які знаходзіўся на левым беразе Супраслі і належаў роду Міхалоўскіх. Яго ўласнік і адначасова ўласнік паншчыннай вёскі „Нізбодка", што была насупраць на правым беразе рэчкі, у 1832 годзе заснаваў мануфактуру з вадзяным рухавіком і каля вёскі збудаваў пасёлак для ткачоў, якія прыбылі сюды аж з Лодзінскай акругі. Сваю маёмасць ён назваў Міхаловам. Мануфактура даволі шпарка пачала развівацца, але панскую сям'ю Міхалоўскіх сустрэў жыццёвы крах. Яны прынялі ўдзел у студзеньскім паўстанні 1863 года. За гэта пасля разгрому паўстання царскі ўрад канфіскаваў іх маёмасць. Але раз кінутае зерне прамысловасці ўкаранілася тут — вакол вёскі і маёнтка розныя прадпрымальнікі, пераважна немцы па паходжанню, пачалі засноўваць тэкстыльныя фабрычкі. У 1879 годзе тут было 43 „прадпрыемствы" з 535 рабочымі, а ў 1907 годзе — 45 фабрычак з 720 рабочымі. Не было ніякіх цяжкасцей са збытам прадукцыі, напрыклад, у Расію. З бегам часу колішняя вёсачка Нізбодка растварылася ў фабрычным пасёлку Міхалова. Сёння нават цяжка ўстанавіць, дзе яна знаходзілася. У 1907 годзе пасёлак атрымаў гарадскія правы.

Разбуральная сіла дзвюх апошніх сусветных войнаў не абмінула Міхалова. Асабліва ў апошнюю фашысцкія акупанты знішчылі ў 1944 годзе міхалоўскую прамысловасць. Але за гады народнай улады Міхалова адрадзілася і аднавілася. Асада згубіла назаўсёды сваю ранейшую назву паншчыннай вёскі Нізбодка.

У 1950 годзе Міхалова налічвала ўсяго 1 384 чалавекі (для параўнання: у 1939 годзе тут пражывала 5 000 асоб). У 1968 годзе пражывала тут ужо 2 265 асоб і ў 1978 годзе — 2 970 (у той час у гэтай даволі вялікай гміне было 10 325 жыхароў). Зараз Міхалова не мае гарадскіх правоў. Аднак Міхалоўская гміна па тэрыторыі і па колькасці насельніцтва з'яўляецца адной з большых у Беластоцкім ваяводстве. Яна на чацвёртым месцы — уступае толькі Бельскай, Бранскай і Заблудаўскай гмінам. У 1979 годзе гміна налічвала 10 440 асоб, у тым ліку 5 264 мужчын і 5 176 жанчын.

## Прыродныя ўмовы

Тэрыторыя Міхалоўскай гміны распасціраецца на злёгку ўсхваляванай нізіне ледніковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 138—195 метраў над узроўнем мора. Найбольшыя высоты сустракаюцца ў паўночнай і заходняй частках гміны, а найніжэйшыя — у паўднёвай частцы, у даліне ракі Нарвы. Найбольшая высота — 195 метраў н.у.м. была вымераная каля вёскі Тыльвіца ды крыху меншыя высоты 183—185 метраў н.у.м. — у наваколлі вёсачак Жэдня, Капцы, Раманава і Мастаўляны-калёнія. Пачынаючы ад цэнтральнай часткі, уся тэрыторыя мае невялікі схіл у паўднёвым напрамку да даліны ракі Нарвы. У гэтай даліне каля вёскі Сушча знаходзіцца найніжэйшая частка гміны — 138 метраў н.у.м. Наогул рэльеф не ствapae перашкод у развіццi сельскай гаспадаркі.

Галоўнай воднай артэрыяй, якая збірае ваду з 2/3 тэрыторыі Міхалоўскай гміны, з'яўляецца **рака Нарва**. Яе шырыня ад 12 да 30 метраў, хуткасць цячэння 1,5—2 км у гадзіну. У час веснавых разводдзяў шырыня сцёку павялічваецца да 1—1,5 км, займаючы ўсю даліну, а хуткасць цячэння ў рэчышчы ўзрастае да 5 км у гадзіну.

Нарва бярэ свой пачатак на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на так званых „Дзікіх Балотах". Адсюль невялікі ручаёк з жоўта-чырвонай вадой, перасекшы яшчэ Арлова балота і прыняўшы тры роўных сабе па велічыні прытокі — Рудаўку, Няміраўку і Тушамлянку, ужо ў выглядзе сапраўднай ракі ўваходзіць на тэрыторыю Польшчы. Тут Нарва спачатку цячэ невялікімі рукавамі па забалочанай даліне шырынёй каля 10 кіламетраў, прымае яшчэ рэчкі Пчолку, Калонку і Цісоўку, потым Луплянку, Руднік, урэшце, Нараўку (яе даўжыня дасягае 65 км, а шырыня рэчышча ад 5 да 15 метраў) і, дзякуючы марэннай градзе, пачынае злучацца ў адно рэчышча. Даліна становіцца вузкай, умерана вільготнай. Ад вёскі Бiндзюга да вёскі Брушкоўшчына і насупраць яе рака робіць маляўнічыя звіліны, называныя „Брушкоўскімі каленамі". Варта дадаць, што каля вёскі Сушча выступаюць старыцы, званыя тут „затокамі". Агульнымі рысамі вярхоўя ракі Нарвы з'яўляюцца няўстойлівасць фарватэра і рэчышча, яго запясчаненасць і звілістасць ды асіметрычнасць берагоў, з якіх адзін, высокі, заўсёды падмываецца, другі, нізкі, павялічваецца і пакрываецца лазінай і іншымі зараслямі з ліставых дрэў і кустарнікаў.

Міхалоўская гміна цягнецца ўздоўж верхняга цячэння Нарвы ад дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь пад Беласток — за 45 кіламетраў. Знаходзіцца яна ў паласе **сярэдняга клімату**. Вегетацыйны перыяд прадаўжаецца каля сямі месяцаў, пачынаючы з другой паловы красавіка. Сярэдняя сума ападкаў — 640 мм у год. Такой іх колькасці хапае для росту ўсіх сельскагаспадарчых культур.

Туманы ў гміне выступаюць найчасцей па далінах рэк Нарва, Супрасль і Плоска ды Семяноўскага вадасховішча. Супрасль выплывае з багнаў, што знаходзяцца на поўнач ад вёскі Тапаляны, віецца сярод лугоў і лясоў сённяшняй Кнышынска-Беластоцкай пушчы, каб уліць свае воды ў раку Нарву. Даўжыня яе цячэння — 92 кіламетры.

Дамінуючымі з'яўляюцца слабыя і сярэднія цыкланальныя вятры заходняга напрамку. Яны прыносяць найбольшую колькасць ападкаў, уздзейнічаюць павышэнню тэмпературы ў халодны перыяд і яе паніжэнню ў цёплы перыяд года. Зімою магчымы антыцыкланальныя пераносы паветраных мас, дзякуючы якім устанаўліваецца сухое надвор'е з даволі нізкімі тэмпературамі. Аднак маразы звычайна не наносяць вялікай згубы азімым культурам або садам.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# БІЗНЕС-КЛУБ СФАРМАВАНЫ!

6 сакавіка гэтага года ў сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку сфармаваўся Беларускі бізнес-клуб — прайшоў першы Кангрэс гэтага згуртавання.

Ідэя арганізацыі яшчэ аднаго памоста паміж Польшчай і Беларуссю, — сказаў старшыня ініцыятыўнай групы Беларускага бізнес-клуба Юры Бусловіч з Варшавы, — нарадзілася вясною 1993 года. Пра патрэбу такога згуртавання вырашылі працэсы, якія адбываюцца ў так званым тутэйшым асяроддзі — дэцэнтралізацыя замест інтэграцыі. Ю. Бусловіч звярнуў увагу на тое, што Бізнес-клуб мае блаславенства архіепіскапа Савы ды падтрымку пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзіміра Сянько. Даволі доўга трывала ўладжванне звязаных з Клубам фармальнасцяў. Ваяводскі суд у Варшаве, які рэгістраваў згуртаванне, заявіў шмат засцярог да статута. Самая прынцыповая засцярога датычыла пытання, як сумясціць гаспадарчую дзейнасць Клуба з законным патрабаваннем дзейнасці на грамадскіх прынцыпах. Пасля доўгіх кансультацый арганізатарам Бізнес-клуба ўдалося ўсё-такі пераканаць суд, што такая форма будзе самай адпаведнай. Суд намякаў, каб рэгістраваць Клуб як гаспадарчую адзінку.

Спадар Ю. Бусловіч даволі падрабязна распавёў у сваёй справаздачы пра кактэйль-парты, у якіх удзельнічалі арганізатары Клуба, пра патрэбу прыгранічнага супрацоўніцтва, пра інвестыцыі па ахове асяроддзя і пра пяціпрацэнтны акцыянерны ўдзел Клуба ў здабычы нафты ў раёне Цюмені. Шмат увагі адвёў таксама арганізацыі банка гаспадарчай інфармацыі пры Клубе ды гандлю гэтай жа інфармацыяй.

Першы Кангрэс Беларускага бізнес-клуба вылучыў свае статутныя органы: Краёвую раду (Уладзімір Карнілюк — старшыня, Пятро Крук — канцлер), Галоўную ўправу (Юры Бусловіч — прэзідэнт, Мікалай Алексяюк — віцэ-прэзідэнт) і Рэвізійную камісію (Аляксандр Палескі).

(ам)




**Шаноўная Рэдакцыя,**

прапаную вашай увазе некалькі істотных спраў.

Падключылі мне ў Беластоку (вул. Тысячагоддзя) сатэлітарную антэну ды ўзялі за гэтую паслугу 500 тысяч. Тэлевізар быў каляровы ды сказалі мне, што трэба паставіць на ім дадатковы колер — я гэту справу заявіў у рамонтнай майстэрні на Варшаўскай 79. Там сказалі, што дадуць гадавую гарантыю. Прыйшоў механік, падключыў што трэба і ўзяў за паслугу 407 тысяч. Колер, аднак жа, яшчэ пры механіку пачаў знікаць. Я пайшоў яшчэ раз на Варшаўскую, механік ізноў прыйшоў, пазаглядаў, нешта пакруціў і ўзяў 85 тысяч. Праз пару дзён тэлевізар ізноў не працуе — механік кажа мне, што тут такі дроцік, а тут кнопка ды я і сам магу падрэгуляваць. Узяў зноў 30 тысяч. Але ж тэлевізар далей не працуе.

Пытаюся, чаму нельга зразу ўстанавіць тэлевізар як трэба ды чаму механікі не маюць сваіх пячатак ці нейкіх іншых знакаў, каб чалавек ведаў, хто ў яго быў і чаму не зрабіў сваёй справы?

Чуў я, што ПГР у Макаўцы каля Нарвы прадае куры і яйкі. Заехаў я туды — а як жа, прадае. Без вагі, без дакументаў, без сорту. 30 тысяч за курку, а ў Беластоку ў краме 20 тысяч за кілаграм, першы сорт. Пытаюся яшчэ, ці яйкі прадаюць і па колькі. Кажуць, што ў Нарве маюць краму ў адной кватэры і там трэба запытаць. Краму адшукаў — а хто вас сюды праслаў, пачуў я. Яшчэ спатрэбіўся мне папяровы мяшок, каб пакласці туды курэй (купіў 6 штук). — А мы мяшкоў нікому не даем, — вульгарна адказаў мне мужчына пад 40 гадоў.

У вёсцы Дубіны ўсё не вырашана справа камунікацыі з Гайнаўкай. Аўтобусы ездзяць усяго некалькі разоў у дзень. Улады адказваюць, што ім не аплачвалася, калі гарадскі транспарт ездзіў па 30 разоў, а цяпер, калі ездзіць 5 разоў, нібыта аплачваецца.

Апошняя справа. Чаму на нашых сметніках няма асобнага месца на лепшыя адпады? Усё, так сказаць, ідзе ў адну яму. Заходнія краіны, якія багацейшыя за нас, на сметніках завялі ж нейкі парадак.

**П. МІКУЦЬ**

# ТЫДЗЕНЬ ТЭАТРА Ў БЕЛАСТОКУ

З 21 па 27 сакавіка ўсе, хто звязаны са сцэнай будуць мець святочны дні. Святочныя, але не выхадныя. Асабліва працаўнікі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, дзе праводзіцца будзе **II Міжнародны тыдзень тэатра.**

Прыхільнікаў беларускага сцэнічнага слова напэўна ўцешыць вестка, што са спектаклем прыедзе да нас Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

У развіццё купалаўскай сцэны ўнеслі ўклад такія рэжысёры як Еўсцігней Міровіч, Леанід Рахленка, Міхал Зораў, Канстанцін Саннікаў, Леў Літвінаў, Барыс Эрын. У падставах нацыянальнай акцёрскай школы — майстэрства Уладзіміра Крыловіча, Глеба Глебава, Барыса Платонава, Уладзіміра Уладамірскага, Уладзіміра Дзядзюшкі, Лідзіі Ржэцкай, Ірыны Ждановіч і іншых. З самых пачаткаў у тэатры працуе жывая легенда беларускага акцёрскага майстэрства Стэфанія Станюта — поўна жыцця, унутранага святла і энергіі.

З 1973 года мастацкім кіраўніком купалаўскага татра ёсць Валеры Раеўскі, які стажыраваўся ў славутага Юрыя Любімава. У рэпертуары паявіліся з яго прыходам спектаклі, характэрныя яркай тэатральнай формай, паглыбленым даследаваннем псіхалогіі персанажаў. Істотнай з'явай у тэатральным жыцці Беларусі сталі ягоныя спектаклі на творы сучасных беларускіх драматургаў: А. Дудурава, М. Матукоўскага, В. Бутрамеева. Вялікі грамадскі рэзананс мелі спектаклі, пастаўленыя Мікалаем Пінігіным (сярод іх „Тутэйшыя" Я. Купалы).

Сёння тэатр ганарыцца не толькі славутымі карыфеямі акцёрскай школы, як С. Станюта, Віктар Тарасаў, Генадзь Аўсяннікаў. З добрым вынікам працягваюць традыцыю купалаўскіх майстроў сцэны маладыя — Віктар Манаеў, Зоя Белахвосцік, Уладзімір Кін-Камінскі, Віталь Рэдзька.

На гэты раз тэатр імя Я. Купалы прывязе нам спектакль „Віват, імператар!", пастаўлены па п'есе Эжэна Іанеска „Крэслы" маладым рэжысёрам Уладзімірам Савіцкім на Малой сцэне ў лістападзе 1993 года, фактычна ўпершыню пастаўлены на беларускай сцэне, у перакладзе Артура Вольскага. Галоўныя дзеючыя асобы гэтага трагіфарса — Ён і Яна, у ралях гэтых заслужаныя артысты Беларусі Тамара Нікалаева і Уладзімір Рагаўцоў, якія шчыра стараюцца перадаць гледачу свае адносіны да кахання, лёсу, да складаных жыццёвых сітуацый. Музыка Уладзіміра Кур'яна, мастак — Валеры Кашчэеў.

Спектакль можам паглядзець **24 сакавіка 1994 г. у тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку.**

(м)

# СУЧАСНЫЯ ДОНКІХОТЫ

Нядаўна ў „Голасе Радзімы" (н-р 7) паказаўся вялікі артыкул Міколы Крукоўскага „Інтэлігенцыя і беларуская ідэя", у якім аўтар даказвае, што ў сапраўднасці беларуская інтэлігенцыя перастала існаваць недзе ў канцы 30-х гадоў. Тое, што ўзнікла пасля вайны і што ўмоўна называецца інтэлігенцыяй, з'яўляецца творам выхаваным у інкубатары савецкай ідэалогіі. Мэтай існавання гэтай савецкай інтэлектуальнай эліты мела быць трансмісія пастановаў партыі ў народ. Была гэта нядрэнна адукаваная група, якая не адчувала за сабой ніякай нацыянальнай спадчыны, тым больш не бачыла патрэбы ўзбагачаць яе новымі элементамі. Інтэлект малаадукаваных выхадцаў з вёсак запоўнілі адзінай праўдай, адзінай рацыяй, адзіным светапоглядам. Выконваючы свае абавязкі, не мелі яны ніякіх сумненняў, што павінна быць так, як загадала партыя. Не ўзнікаў у іх ніякі маральны канфлікт. Яны мелі толькі служыць „вялікай справе".

Ці на Беласточчыне было інакш? Беларускай інтэлігенцыі тут ніхто не знішчаў, бо не было раней умоваў для яе ўзнікнення. Нават кіраўніцтва КПЗБ на гэтай зямлі ўзначальвалі палякі і яўрэі, а іншыя палітычныя накірункі тут амаль не існавалі. Санкцыянаваная дзяржаўным законам II Рэчыпаспалітай адсутнасць беларускага школьніцтва на Беласточчыне вызначала гэтай зямлі шлях да поўнай паланізацыі. Жменька прыхільнікаў „арганічнай працы", пазбаўленая фінансавых сродкаў, супраць якой выступалі адміністрацыйны і паліцыйны апараты, не магла змяніць кашмарнай рэчаіснасці, у якой апынулася беларускае насельніцтва. Савецкая, а пасля нямецкая ўлады ў гадах 1939—1944 высмакталі нават тыя лічаныя адзінкі, якія адчувалі патрэбу змагацца за беларускую справу.

У новай пасляваеннай Польшчы беларускае грамадства складалі амаль выключна сяляне.

Вельмі слушна заўважаюць цяпер шматлікія беларускія дзеячы, што „пры камуне" былі адчыненыя беларусам вароты ў свет навукі, улады і адміністрацыі. Сапраўды, польская народная ўлада ахвотна прыняла ў свае рады нашых сялян, ствараючы ім упершыню шанц усялякага грамадскага прагрэсу, а сабе — лаяльных выканаўцаў сваіх загадаў. Гарантавала яна палітычную і сацыяльную роўнасць, але толькі як палякам, нічога не хацела ведаць пра іхнюю беларускасць. Узамен патрабавала паслухмянага выконвання абавязкаў урадніка, міліцыянера, партыйнага дзеяча. Аддавасць нашых хлопцаў не мела межаў. Калі было трэба, змагаліся з „беларускім нацыяналізмам" больш актыўна, чым самыя палякі. Гэта ж іх рукамі лавіліся „беларускія калабаранты" ў гадах 1944—1948, іх рукамі знішчалася беларускае школьніцтва ў гадах 1945—1947. А пасля? Было так сама: хаця б той славуты ліст беларускіх дзеячоў міністру асветы ад 1971 г. з прашэннем ліквідаваць школы, у якіх заняткі вяліся на беларускай мове. Возьмем хаця б кніжку Г. Валкавыцкага „Віры" — крыніцу ведаў пра менталітэт беластоцкай інтэлігенцыі беларускага паходжання. „Ук" быў у кожным месцы — сакратаром партыі, цэнзарам, афіцэрам бяспекі, даносчыкам у рэдакцыі „Нівы". Тым, якія думалі катэгорыямі беларускага нацыянальнага інтарэсу, трэба было больш баяцца „нашага хлопца", чым мясцовага „мазура", бо „ук" на кожным кроку даказваў, які ён адданы і лаяльны сваім працадаўцам. „Мяне тут паставіла партыя" — часта паўтараў цэнзар „Нівы" — „наш хлопец".

Беларусаў ахвотна бралі ў рады народнай улады не таму, што шанавалі іх польскія таварышы, але таму, што больш ахвярна, чым палякі, служылі, без ніякага сумнення выконвалі свае абавязкі службоўцаў і ніколі нічога не дамагаліся як беларусы. Наадварот, сваю беларускасць некаторыя скрывалі проста ў карыкатурны спосаб — нават мяняючы імёны і прозвішчы. Беларусы былі самымі выдатнымі патрыётамі Народнай Польшчы. „Uzyskaliśmy prawo do bycia cząstką polskiego socjalistycznego narodu" — заяўляў вядомы беларускі дзеяч у 1969 г. („Argumenty", nr 37).

Новая этычная катэгорыя сярод беларускай інтэлігенцыі пачала ўзнікаць на пачатку 80-х гадоў, адкідаючы — можа беспадстаўна — усё, што звязана было з мінулай эпохай. Цікава, што новая якасць найхутчэй нараджалася не ў Беластоку, а ў Варшаве, дзе па вышэйшых навучальных установах здабывала веды каля двухсот студэнтаў з Беласточчыны. Адтуль у Беласток ішлі штуршкі, спрыяючыя беларускаму адраджэнню, перш за ўсё ў студэнцкім асяроддзі. Іншая цікавая з'ява, што найбольш актыўнымі сталі слухачы матэматычна-фізічных і гістарычных факультэтаў. „Рэвалюцыя" маладога пакалення аказалася, аднак, аднаразовым уздымам, гасла паралельна з падобнымі плынямі ў польскім асяроддзі. Сярод беларускай маладой інтэлігенцыі расчараванне новай рэчаіснасцю наступіла вельмі хутка. Яе дэкадэнцкі спосаб мыслення паглыбляў сіндром пройгрышу ў чарговых выбарах, разгубленасць і невялікае зацікаўленне грамадства іншымі, чым бытавыя, справамі, варожасць польскага асяроддзя да кожнай беларускай ініцыятывы.

У мысленні маладога пакалення напрыканцы васьмідзесятых гадоў пачала дамінаваць місіянерская думка, імкненне да выратавання гаспадаркі ўсходняй Беласточчыны, адраджэнне культуры, асветы, ліквідацыі цывілізацыйнай прорвы, аддзяляючай гэты рэгіён ад рэшты краіны. Невядома чаму маладым ідэалістам здавалася, што ўсяго гэтага хоча беларускае насельніцтва. А ў сапраўднасці было зусім інакш. Людзі хацелі толькі вяртання старога ладу. Самаўрадавыя і чарговыя парламенцкія выбары даказалі, што не вырасла яшчэ ніякая новая катэгорыя беларускіх палітыкаў. Нашыя эліты бачылі палітыкаў як нешта ідэальнае, думалі, што дастаткова мець добрыя намеры, гаварыць праўду, і народ гэтае адобрыць. Нікому нават у галаву не прыйшло, што палякі дэмакратыю трактаваць будуць толькі як нешта фармальнае. Усе былі перакананыя, што будуць яны зацікаўленыя кожнай формай актыўнасці, якая мела спрыяць гаспадарчаму развіццю, што дзяржава сур'ёзна ўспрымаць будзе еўрапейскія прынцыпы ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Беларусы не зразумелі, што палітыка — гэта гульня не для лірыкаў і ідэалістаў, а для цынікаў, якія ніколі не гавораць таго, што думаюць, а тым больш ніколі не робяць таго, што гавораць. Выбары тут заўсёды выйгравалі тыя, якія ведалі чаго хоча электарат і гаварылі людзям тое, што тыя хацелі пачуць. Ніякія выратавальныя ідэі нікому не былі патрэбныя, асабліва тыя, што патрабавалі актыўнасці самога грамадства. Паводле ўяўленняў большасці, узровень жыцця залежыць ад улады, бо яна стварае месцы працы, назначае велічыню платы, рашае амаль усё. З'яўляецца яна нечым абстрактным, дадзеным звонку, чымсьці, што кіруецца сабе толькі вядомай логікай. Таму можа яна быць добрай ці дрэннай, але мы — грамадзяне — тут ні пры чым. І думаю, што не сам факт такога адчування рэчаіснасці ёсць найгоршым, але тое, што ніхто не імкнецца яе змяніць. Змены патрабуюць рызыкі, актыўнасці і адказнасці пры захаванні свядомасці, што праўдападобнасць поспеху ёсць невялікая.

У сітуацыі разгубленасці і паражэння наш інтэлігент (ідэнтычна селяніну) аказаўся зусім пазбаўленым гумару і аўтаіроніі. Як ідэаліст ён усё ўспрымаў са смяротнай сур'ёзнасцю, крытыку лічыў аплёўваннем, жарт толькі тады быў сэнсоўным, калі не кранаў яго асобы. Зайздрасць і падазронасць сталі галоўнымі прыкметамі ягонага спосабу ўспрымання рэчаіснасці. Амаль прынцыпова свае няўдачы лічыў ён паслядоўнасцю дзеянняў сяброў і знаёмых. Нават адзінкі, здавалася б, без комплексаў, рэдка калі карысталіся аргументамі, даказваючы камусь сваю рацыю. Наш інтэлігент найчасцей дэманстрацыйна абураецца. Робіць гэта ў непаўторны спосаб. Пра свае „крыўды" распавядае наўкола, дасягаючы часам мяжу смешнасці. Запамятае іх даўжэй, чым жыць будзе. Змагаецца з прыдуманым сабою ворагам па-партызанцку. От, калэзэбоўская традыцыя, перанесеная сынамі і ўнукамі „нашых герояў" у іншую рэчаіснасць. У свеце міфалогіі ніхто ўжо не ведае, якія могуць быць паслядоўнасці кожнага слова, кожнага дзеяння.

Магчыма, што ўсё гэтае дзеецца і таму, што ўзорам традыцыі II Рэчыпаспалітай, жменька інтэлігенцыі апынулася ў сітуацыі пацукоў у закрытай скрыні, якіх агрэсія накіроўваецца тады супраць самых сябе. Беларускія эліты не атрымалі ніякіх магчымасцяў дзейнасці ў сваім асяроддзі. Амаль поўная іх ізаляцыя ад грамадства, якога беларускасць затрымалася на мяжы фальклорных патрэбаў, дазваляе на стварэнне новых нацыяў. Інтэлігенцыя перастала выконваць у адносінах да свайго народа тую функцыю, якая вызначае сэнс яе існавання. Элітам засталося толькі змагацца за вартасці, якія нікога ўжо не цікавяць, бо хто іншы выхаваў і надалей выхоўвае нашае грамадства. От, сучасныя донкіхоты, і ўсё.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

# КАНГРЭС Беларускага дэмакратычнага аб'яднання

20 сакавіка 1994 г. у памяшканні Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку а 12-й гадзіне адбудзецца III Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

У праграме: абмеркаванне сітуацыі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, месца БДА ў грамадска-палітычным жыцці Беласточчыны і перавыбары ўладаў партыі.

Шчыра запрашаем членаў, сімпатыкаў і прыхільнікаў Аб'яднання.

**Ад імя Арганізацыйнай камісіі
ПЯТРО ЮШЧУК**



# МІНІСТР КРАЎЧАНКА Ў БЕЛАСТОКУ



Вяртаючыся з Нямеччыны, міністр замежных спраў Беларусі Пятро Краўчанка завітаў у Беласток. Нагодай наведаць наш горад быў фестываль „Беларуская песня '94". З гэтай самай прычыны прыехалі сюды з Беларусі міністры: інфармацыі — Анатоль Бутэвіч, асветы — Віктар Гайсёнак і культуры — Уладзімір Гілеп.

Найбольш напружанай была праграма пабыўкі ў Беластоку міністра Пятра Краўчанкі. Правеў ён размовы з уладамі горада, наведаў музей у Гайнаўцы, сустрэўся з уладыкам Савам і, на гадзіну перад гала-канцэртам, з беларускімі дзеячамі (на здымку).

Падчас гэтай апошняй сустрэчы міністр паінфармаваў прысутных, што замежная палітыка Беларусі ў нічым не змяняецца. Надалей урад імкнецца замацоўваць дэмакратыю, суверэнітэт і незалежнасць дзяржавы, адкрывае новыя дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Два дні раней міністрам было адкрытае консульства ў Боне. „Асаблівую ўвагу адводзім адносінам з Расіяй, — сказаў Пятро Краўчанка. — Там знаходзіцца 70% рынкаў збыту Беларусі. Без гэтага рынка беларускай гаспадарцы пагражае поўны правал".

На пытанне Сакрата Яновіча, як выконваецца падпісаны два гады таму трактат паміж Польшчай і Беларуссю, міністр адказаў, што ўсё ідзе паспяхова, хаця часам здараюцца нейкія недаразуменні, як хаця б у справе консульства ў Беластоку. „На Беларусі — сказаў міністр, — шмат палякаў у вышэйшых дзяржаўных установах, палякі займаюць адказныя пасты ў арміі, службах дзяржаўнай бяспекі, адміністрацыі. Беларусь гэта дэмакратычная і ліберальная дзяржава і мы гэта лічым нармальным. Ведаем, што ў Польшчы ёсць інакш, калі ідзе пра беларусаў, але гэта ўнутраная справа суседняй дзяржавы".

**Рэд.**

**Фота А. Максімюка**

 

# Што далей, васьмікласнік?

Я, як класны кіраўнік VIII класа ў школе ў Дубічах-Царкоўных, запрапанаваў сваім вучням наладзіць экскурсію ў сярэднія школы ў Гайнаўку. Вучні з ахвотай згадзіліся.

Сам пачатак нашай экскурсіі быў, на жаль, непрыемным. 24.II.1994 г. аўтобус а гадзіне 7.50 не прыехаў. Паехалі мы пазнейшым. Наведванне школ пачалі мы з Прафесійнага вучылішча. Гэта найбольшая школа ў Гайнаўцы, вучыцца тут каля 1200 вучняў. Дырэктар пазнаёміў нас з гісторыяй школы і ўмовамі працы ў ёй. Паказаў вучням дзве майстэрні, у тым ліку камп'ютэрную. Мы сустрэлі тут таксама выпускнікоў нашай дубіцкай школы.

Нашы васьмікласнікі маглі прасачыць за цэлым тэхналагічным працэсам дрэваапрацоўкі. Кіраўнік майстэрняў паінфармаваў, што іх гадавы даход складае 1 мільярд 400 мільёнаў злотых. Прыцягвае ўвагу сапраўды добрая якасць робленых імі табурэтаў, мяккіх крэслаў, пісьмовых сталоў. Ужо ў школе можна купіць мэблю па сабекошту, напрыклад, пісьмовы стол за 1.050 тысяч злотах. Затым кіраўнік слясарні пазнаёміў нас са сваёй прадукцыяй. Выконваюцца тут паўфабрыкаты для заводаў, напрыклад, замкі, завесы для гаражоў, заклёпкі, шрубы, свердлы. Многа заказаў паступае ад прадпрыемства „Moderator" з Гайнаўкі.

Потым уся наша група падалася ў Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. Дырэктар Яўген Сачко паказаў нам школу, амаль усе класныя залы. Школа вялікая, прасторная, вучыцца ў ёй каля 320 вучняў. У новым будынку ліцэя прыгожыя канцэртны і камп'ютэрны залы, лабараторыя нямецкай мовы. Вельмі добра абсталяваны хімічны і фізічны кабінеты. Школа радыёфікаваная, а радыёвузел і тэлевізійная студыя ў ходзе рэалізацыі. Туалеты чысцюсенькія і эстэтычна выкананыя. Кабінет дырэктара прасторны, а ў прыёмнай стаіць камп'ютэр і два ксераксы. Яшчэ не завершаны работы ў сталовай. Дырэктар пазнаёміў нас з працай школы, яе дзейнасцю на беларускай ніве. Сказаў таксама пра дасягненні вучняў. Успомніў нашую выпускніцу, Басю Цімафяюк з Істока, якая на алімпіядзе нямецкай мовы заняла трэцяе месца ў краіне. Гаварыў і пра магчымасці далейшай адукацыі ў Беларусі. Вучні чацвёртых класаў у другім паўгоддзі маюць толькі абавязак хадзіць на заняткі па польскай і беларускай мовах і фізкультуры, а іншыя прадметы выбіраюць сабе самі. Тыя, якія выбралі гісторыю маюць аж 12 гадзін гэтага прадмета ў тыдзень, а геаграфію — 3 гадзіны.

У наступным навучальным годзе дырэктар хоча такую сістэму навучання ўвесці ў цэлым чацвёртым класе. Дырэктар заахвочваў маіх выхаванцаў паступіць у іх школу. Запэўніў ён, што з беларускай мовай ніколі ніякіх праблем не было і не будзе. Можна таксама сабе выбраць замежныя мовы. Спадар Яўген Сачко сказаў яшчэ, што пабудуюць у школе фізкультурны зал і крыты басейн. Візіт у беларускім ліцэі зрабіў вялікае ўражанне на нашых васьмікласніках, бо няма ніякіх сумненняў, што гэта школа XXI стагоддзя.

Пад канец нашай экскурсіі мы наведалі другі Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы. Мне, як выпускніку гэтага ліцэя, павінен быць ён вельмі блізкім, аднак умовы навучання ў ім несумненна горшыя, чым у беларускім ліцэі. Вучыцца тут каля 500 вучняў (18 аддзелаў). У наступным навучальным годзе плануецца 17 аддзелаў. Школе патрэбны рамонт (асабліва знішчаны падлогі). Спадарыня Ванда Пляськовіч, дырэктар школы, паказала нам некалькі класных залаў і зал-музей, у якім захоўваюцца памяткі з амаль 50-гадовай гісторыі школы. Экскурсію мы кончылі ў школьным кафэ. Думаю, што экскурсія дазволіла вучням параўнаць свае ўяўленні пра сярэднія школы з тым, што яны пабачылі.

На маю думку, такія экскурсіі вельмі патрэбныя. Памяншаюць яны рызыку памылковага выбару сярэдняй школы выпускнікамі пачатковых школ. Дырэкцыі сярэдніх школ з вялікай прыхільнасцю адносяцца да такіх дзеянняў. Усюды нас сардэчна віталі. Думаю, што цяпер будуць выбіраць сабе школу вучні, а не бацькі. Магчыма, што гэта заахвоціць некаторых вучняў да далейшай настойлівай працы над сабою, да выбару „лепшай" школы. Жадаю гэтага ўсім сёлетнім васьмікласнікам, а асабліва сваім выхаванцам.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

P. S. Пасля экскурсіі тры вучаніцы і адзін вучань выбралі для далейшай вучобы беларускі ліцэй. Толькі адна вучаніца хоча працягваць навуку ў эканамічным ліцэі ў Бельску-Падляшскім, іншыя вучні хочуць вучыцца ў Гайнаўцы.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ДЗЕНЬ МАЙГО ВЫЗВАЛЕННЯ

## 5 лютага 1945 г.

*(заканчэнне)*

Я і не падумаў, што з прычыны Лідкі вынікнуць для мяне непрыемнасці. Яна прысела побач мяне і я тады заўважыў, што палітрук, які прамаўляў да немцаў, неяк скоса пазірае ў мой бок. Я не мог сцяміць, у чым справа, калі ён не вытрымаў, падышоў да мяне і спытаў па-нямецку, ці ў мяне ёсць жонка. Я яму адказаў па-руску, але ён нічога не адазваўся і адышоў назад. А Лідка далей сядзела побач мяне. Праз нейкіх пяць мінут палітрук вярнуўся і запытаў:

— Вы кто? Немецкий полицай?

— Нет, в никаком случае! Меня немцы сюда силой вывезли на принудительные работы. Я уже здесь почти два года. Можете спросить у немцев. У этого небольшого я работал всё время...

— Сколько вам лет? — перабіў мне капітан.

— Мне исполнилось восемнадцать. Я двадцать шестого года рождения, — адказаў я.

— Я не верю, вы старше, — сказаў ён, паглядзеўшы на мяне падазрона.

— У меня, в моей комнате, есть документы!

— Если так, покажите, — загадаў палітрук.

За мной і капітанам пайшлі на паддашак яшчэ тры салдаты. Я знайшоў свае школьныя пасведчанні з IV, V і VI класаў пачатковай польскай школы, з VI і VII класаў сярэдняй беларускай школы. Яны былі схаваны ў дзённік, які я стаў весці пасля прыезду ў Прусію. У ім я час ад часу запісваў свае ўражанні і падзеі з 20 сакавіка 1943 г. амаль да лютага 1945 г. Палітрук браў у рукі пасведчанні, глядзеў дату нараджэння і выпускаў іх з рук на падлогу. Наканец узяў дзённік, стаў перагортваць старонкі, перачытваць некаторыя запісы. Відаць, паверыўшы, што я не паліцай, адазваўся:

— Можете ли вы подарить мне этот дневник?

Шкада мне было расставацца з дзённікам, але і не адважыўся пярэчыць палітруку. Згадзіўся. Пазбіраў я з падлогі пасведчанні, стаў хаваць іх, калі капітан адазваўся ў такія словы:

— Вы знаете, почему я к вам придрался? Не знаете? Ох, какой вы недогадчивый! Вы же знаете, что здесь многие солдаты уже лет два-три не жили со своими супругами, а вы сидели здесь с девушкой и только их раздражали. Я пытался намекнуть вам об этом, но вы не поняли и дальше с ней сидели. Я вынужден был навести с вами порядок.

У гэту хвіліну да палітрука падышоў дзяншчык, нейкі ўзбек або таджык, казырнуў яму і з усходнім акцэнтам спытаў:

— Товарыш капытан, вывэсты ево і расстрэлять?

Я глянуў на яго са здзіўленнем, але без страху. „Нет, не надо!" — са злосцю адказаў палітрук. Дзяншчык выйшаў. Адзін з застаўшыхся салдат праявіў цікавасць да маіх ботаў з халявамі і загадаў мне зняць іх. Салдат паспрабаваў надзець іх на свае ногі. Аказаліся малыя, але не аддаў іх. Трэба было мне абуць чаравікі.

На гэты момант зусім непатрэбна прыбегла Лідка. Мне загадалі сысці ўніз, а яе затрымалі на паддашку. Пасля Лідка гаварыла, што хацелі яе згвалціць, але яна выплакала ў салдат, каб яе адпусцілі. Адзін з салдат заступіўся за ёю, сказаўшы: „Оставьте её, разве немок у вас не хватает?". Палітрук усяму гэтаму прыглядаўся і маўчаў.

Да нас зайшоў Валянцін і запрапанаваў, каб мы з Лідкай правялі вечар і ноч на яго хутары, дзе Насця падрыхтавала ўжо вячэру. Мы сталі ісці, але за домам спыніў нас дзяншчык. Распытаўшы нас што і як, азіят дазволіў адысці Валянціну і Лідцы, а мяне вярнуў назад. Апынуўся я ў пакоі паміж немцамі і савецкімі салдатамі. Стала цямнець і немцы запалілі дзве свечкі. Раптам з крыкам у пакой уварваўся п'яны салдат і пачаў дамагацца, каб яму аддаць трынаццацігадовую дачку сястры баўэра. Яе хутка схавалі з вачэй раз'юшанага салдата, але ён выхапіў нож і стаў крычаць, што парэжа ўсіх немцаў. Аднак знайшоўся нейкі добрасумленны салдат, які пабег у другую палову дома, у штаб, і выклікаў адтуль афіцэра. П'янага салдафона арыштавалі. Стала ціха, пагаслі свечкі. Я абапёрся аб сцяну і пачаў драмаць, хвалюючыся заўтрашнім днём.

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## VI. Расліннасць і жывёльны свет. Ахова прыроды.

Беларусь размешчана ў заходняй частцы зоны змешаных лясоў. Пад лясной расліннасцю занята 1/3 тэрыторыі краіны. У беларускіх лясах расце каля 30 відаў дрэў, 70 відаў хмызнякоў і паўхмызнякоў. Самая распаўсюджаная парода — сасна. Шмат сасновых лясоў на поўдні і ў цэнтральнай частцы Беларусі. Елка часцей сустракаецца на поўначы. З драбналістых парод у лясах больш за ўсё бярозы, асіны і вольхі. Сярод шыракалістых пераважае дуб. Асабліва шмат дубоў на ўсходзе Палескай нізіны. Сустракаюцца таксама граб, ясень, клён і ліпа.

Падлесак утвараюць арэшнік (ляшчына), брызгліна, бружмель, крушына, каліна, ядловец, рабіна, маліна, ажына. Зямлю ў залежнасці ад віду лесу пакрываюць ландышы, кісліца, суніцы, чарніцы, брусніцы, вейнік, папаратнік і іншыя віды, што чаргуюцца з плямамі зялёных імхоў і лішайнікаў.

Больш за ўсё лясоў на Полацкай, Палескай і Прыдняпроўскай нізінах, Цэнтральна-Бярэзінскай раўніне, менш за ўсё — на Віцебскім і Ваўкавыскім узвышшах, Капыльскай градзе, на ўсходзе Аршанска-Магілёўскай раўніны.

Значныя прасторы ў рэспубліцы заняты лугавой расліннасцю.

Своеасаблівая расліннасць балот, якія займаюць 1/9 тэрыторыі Беларусі. Балоты падзяляюцца на тры тыпы: верхавыя, пераходныя і нізінныя. Тыповая расліннасць балот — асака, аер, чарот, трыснёг, рагоз, падбел. Ёсць тут і зялёныя імхі. Па краях балот — зараснікі лотаці і незабудак. Дзе-нідзе растуць вярба, чорныя парэчкі, крушына.

Разнастайны жывёльны свет Беларусі. Жывуць звыш 70 відаў млекакормячых, 280 відаў птушак, 50 відаў рыб, каля 20 відаў паўзуноў і земнаводных. У беларускіх лясах жывуць дзік, лось, лісіца, воўк, заяц, казуля, вавёрка, вожык, крот, буразубка. Значна радзей сустракаюцца барсук, буры мядзведзь, рысь, гарнастай. На берагах рэк будуюць свае хаткі і плаціны бабры. У вадаёмах і на ўзбярэжжах водзяцца андатра, вадзяная выдра, еўрапейская і амерыканская норка.

Сярод найбольш характэрных птушак палёў, лугоў, лясоў і хмызнякоў — жаваранкі, курапаткі, драчы, мышаловы; лясоў — дзятлы, дразды, крыжадзюбы, зязюлі, салаўі, цецерукі, глушцы, сініцы, мухалоўкі, берасцянкі, лелякі, сойкі, шпакі, снегіры, шчыглы, сарокі і іншыя.

У паселішчах і паблізу іх жывуць вераб'і, ластаўкі, галубы, шпакі, буслы, гракі. Ёсць сярод птушак і драпежнікі — совы, ястрабы, каршуны.

У рэках, азёрах, вадасховішчах і сажалках водзяцца шчупак, акунь, плотка, карась, лешч, лінь, мянтуз. З паўзуноў водзяцца яшчаркі, вужы і гадзюкі, з земнаводных — жабы і рапухі. Разнастайны і шматлікі свет насякомых.

У 1981 годзе ўпершыню апублікавана была Чырвоная кніга Беларускай ССР. У яе занесены 80 відаў жывёл, сярод іх 10 відаў млекакормячых і 45 відаў птушак. У Чырвоную кнігу ўключаны 85 відаў рэдкіх і знікаючых раслін.

Для таго, каб захаваць тыповыя ўчасткі прыродных комплексаў у натуральным стане, на тэрыторыі Беларусі створаны запаведнікі — Дзяржаўная запаведна-паляўнічая гаспадарка „Белавежская пушча", Бярэзінскі біясферны і Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны. У запаведніках пад аховай знаходзяцца ўсе кампаненты прыроды. Ахоўваюцца лясныя масівы, балоты, прасторы занятыя лугавой расліннасцю. Па ўсёй тэрыторыі рэспублікі арганізавана таксама больш за 70 заказнікаў. Яны прызначаны для аховы і ўзнаўлення аднаго ці некалькіх кампанентаў прыроды.

Белавежская пушча — гэта адзін з унікальных лясных масіваў Еўропы. Запаведна-паляўнічая гаспадарка „Белавежская пушча" займае плошчу 85 тысяч гектараў. У ёй вядуца разнастайныя навуковыя назіранні і даследаванні.

У пушчы пераважаюць бары, у якіх сосны нярэдка дасягаюць вышыні да 40 м пры ўзросце 160—180 гадоў. Краса і гонар Белавежскай пушчы — зубр. Цяпер на тэрыторыі Беларусі пражывае каля 250 зуброў, у тым ліку звыш 180 — у беларускай частцы Белавежскай пушчы. Жывуць тут таксама высакародны алень, лось, дзік, барсук, гарнастай, рысь, бабёр. Сярод птушак ёсць не толькі белы бусел, цецярук, глушэц, крыжанка, каня, зялёны дзяцел, але і рэдкія віды птушак: чорны бусел, асаед, арол-змеяед, сокал-сапсан.

У цэнтральнай частцы рэспублікі знаходзіцца яшчэ адзін вялікі лясны масіў — Налібоцкая пушча.

Бярэзінскі запаведнік быў пачаткова заснаваны для аховы дзікіх жывёл, пераважна баброў і птушак. У 1978 г. ён уключаны ў сістэму міжзанальных біясферных запаведнікаў міжнароднага значэння. Такія запаведнікі створаны для пастаяннага, усебаковага кантролю за прыроднымі працэсамі на слабазмененых чалавекам участках біясферы.

Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік (год заснавання — 1969) створаны для захавання унікальных ландшафтаў Беларускага Палесся і вывучэння змяненняў у прыродным комплексе ў сувязі з меліярацыяй зямель.

**Ю. БАЕНА**



 

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛІЧЫЛКІ

— Заяц-месяц,
Дзе ты быў?
— У лесе.
— Што рабіў?
— Лыкі драў.
— Куды клаў?
— Пад калоду.
— Выйдзі вон із карагоду!

* * *

Беглі коні пад мастамі
З залатымі капытамі.
Дзінь-бразь,
Выйдзі, князь!

* * *

Сава, соўка,
Маладая ўдоўка,
Сядзіць на павеці,
Люба паглядзеці:
Сама шэранькая,
Дзюбка доўгенькая.
Дзінь-бразь,
Выйдзі, князь,
Не забудзь дзіця.

* * *

Эна, бэна, рэсь,
Кэнтар, мэнтар, жэсь.
Эна, бэна, раба,
Кэнтар, мэнтар, жаба.

* * *

Эны-бэны, фіны, лёк,
Сам Пятровіч бліны пёк.
Пёк, пёк, не дапёк,
Схапіў шапку дый уцёк.

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Я іду шукаць.
Хто перада мной стаіць,
Той ў агне гарыць.
Раз, два, тры —
Гэта, пэўна, будзеш ты.

* * *

Анцы-цванцы,
Трынцы-ярынцы,
Пятым-ладым,
Шуктым—буктым,
Дэвір-дэкс!



*— Паўлік, будзеш калісьці чытачом "Зоркі"?..* **Фота М. Лукшы**

## ПАПУГАЙ ОГОГО

— О-го-го! — прасіла падмогі **О**.

— О-го-го! — паўтарыла прыгожая птушка.

— Ой-ой-ой! — пачало войкаць **О**.

Птушка пераляцела з пальмы на пальму, перапалоханая перадражніла:

— Ой-ой-ой!

— Хто ты? — спытала **О**.

— Тоты, тоты — ого-го-го!..

— Тоты ці Огого?

— Я — Огого! — птушка спрытна перакулілася на пальме. — Я — папугай Огого!

— Ой, Огого, я папала ў палон. Ой, як перамагчы бяду?..

Папугай на парасоне з пёрак спусціўся з пальмы, патупаў перад **О** ў позе пераможцы:

— Паказвай твой палон!

— Ой, Огого, мой палон — сум і непакой. Пагуляць, павесяліцца, а я — адзінокая.

— О-го-го! Ой-го-го! — папугай па-рознаму перакульваўся, падскокваў, падпяваў:

*От я, з літары* **П** *я,*
*Папугай Огого я.*

Павесялела **О**, пакацілася вакол папугая. Падхапіў Огого **О**, падняў на пальму, падвесіў. Было **О**, цяпер — кола. Спявае папугай, седзячы ў коле, пахваляецца:

— От я, з **П** я, папугай Огого я!

**УЛАДЗІЗІМІР ЛІПСКІ**

<u>З гісторыі Беларусі</u>

## КРЫЧАЎ

Нашы далёкія продкі былі язычнікамі — гэта азначала, што пакланяліся яны ўсяму жывому, а таксама прыродным стыхіям, вадзе, агню, дрэвам, камяням і г.д. Прыносілі ім шматлікія ахвяры, такім чынам імкнучыся задобрыць, угаварыць сваіх суровых багоў (бо тады ў іх быў не адзін бог, а мноства) дапамагаць у будзённых справах. Згадваюць, што нават людзей прыносілі ў ахвяру, але гэта здаралася толькі ў тых выпадках, калі спрабавалі атрымаць станоўчы адказ на нейкае надзвычай важнае пытанне. Тады ля ахвярных камянёў, дрэў, узвышшаў спачатку забівалі палонных, а здаралася, што і сваіх супляменнікаў, а потым ужо розных жывёл і птушак. Часцей за ўсё такія ахвярныя рытуальныя свяцілішчы знаходзіліся ў цяжкадаступных месцах, куды незнаёмы чалавек, нават пры вялікім жаданні, не мог трапіць. Лічылася, што калі туды трапляе чужынец, то ён апаганьвае сваёй прысутнасцю свяцілішча і пасля гэтага яго трэба пераносіць на іншае месца. Ахвяры і паднашэнні гордым язычніцкім багам прыносілі, толькі прытрымліваючыся адвечных канонаў, а інакш багі маглі разззлавацца і пакараць людзей.

Сцвярджаюць, што адно з такіх свяцілішчаў, куды язычнікі прыносілі ахвяры, і дзе пакланяліся сваім драўляным багам, знаходзілася на гары, на якой сёння размешчаны горад Крычаў.

Саму назву горада народныя дарадцы тлумачаць ужо паводле хрысціянскіх матываў (мовай веры, якая змяніла язычніцкую). Маўляў, у адну з ціхіх і прыгожых летніх начэй, калі жыхары навакольных паселішчаў знаходзіліся на гары, з неба прагучаў магутны голас, які забараніў ім пакланяцца дрэвам і камяням, а заклікаў прызнаваць аднаго толькі Бога — нябеснага. З тае пары гара стала Крычаўскаю, а горад — Крычавам.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**

## ДЗЯДУЛЯ ХАМЯК

### Казка

У ціхім кутку парка, прыкрыўшы галаву лістком лопуху, сядзеў Хамяк. Ён быў задаволены, што яго ніхто не турбуе.

— Дзядуля, што вы тут робіце? — пачуўся чыйсці голас. Хамяк азірнуўся, але нідзе нікога не было. Толькі ўбачыў, як нешта варухнулася ў траве.

— Гэта я спытаў, — падскочыў над травою Мяч.

Хамяк не паверыў:

— Хто ж, нарэшце, са мною гаворыць?

— Я! — зноў падскочыў Мяч. — Чаму вы заўсёды адзін, дзядуля Хамяк?

— А ты адкуль мяне ведаеш?

— Вас усе мячы ведаюць. Вы ніколі не ўсміхаецеся, а самі такі пацешны. Нібыта кавун з бульбінкай. Зверху бульбінка, знізу кавун. А па баках рукі-ногі на гумачках. Яны так смешна матляюцца, калі вы спяшаецеся. Можа, вас хто за нітачку тузае?

— Хлусіш ты, Мяч, — пакрыўдзіўся Хамяк. — Я сам каго хочаш тузану! А вось цябе ўсе нагамі б'юць.

— Гэта вам, дзядуля, здаецца, — далікатна запярэчыў Мяч. — Спытайце ў любога хлопчыка, у любой дзяўчынкі. Мы разам забаўляемся. Як роўныя.

— Праўда! Яны адзін аднаго радуюць, — сказала зялёная Страказа. — А вы ўмееце радавацца?

— Якая радасць? — здзівіўся Хамяк. — Прычапіліся. Я з недарэчнымі пытаннямі ні да кога не лезу.

— А вы былі малым? — спытаў Мяч. — Ці вечна такі стары і злосны?

— Прэч ад мяне! — засердаваў Хамяк. — Вось схаплю зараз і аднясу ў камору. У мяне там многа такіх назбіралася.

— А навошта вы збіраеце нас? — пацікавіўся Мяч.

— Каб не ўзнімалі вэрхалу пад вокнамі.

— А мне ў камору можна?

— Табе? Калі ласка! Дзіўна толькі: ніводзін мяч ніколі не прасіўся да мяне.

Засвісталі шпакі, затрашчалі сарокі, паднялі гармідар вераб'і, высока ўзвілася зялёная Страказа. Здзівіліся, што Хамяк і Мяч разам некуды выправіліся.

— Вось, глядзі! — адчыніўшы камору, сказаў Хамяк. — Цэлая гара Мячоў! Далучайся!

І замкнуў камору.

„А ўсё-такі сёння нешта незвычайнае здарылася, — кладучыся спаць, падумаў Хамяк. — Але што?"

Спаў ён доўга, моцна. Прыснілася, што ён малы і ў яго шмат рознакаляровых мячоў. А з ім разам хлопчыкі, дзяўчынкі. І ў іх мячы. Усе яны весела кружацца, падскокваюць...

Прачнуўся Хамяк ад незразумелага гулу. Сцены хаты дрыжалі. Ён ускочыў, расчыніў акно. Гул чуўся з каморы. Хамяк адамкнуў камору, і адтуль выкаціліся, падскокваючы, мячы, разбегліся ў розныя бакі.

Разгублены Хамяк стаяў ля дзвярэй. Нечакана да ног падкаціўся знаёмы Мяч.

— Даруйце, дзядуля! — вінавата ўсміхнуўся ён. — Спяшаючыся, я не паспеў пажадаць вам добрага здароўя. Які сёння цудоўны ранак!.. Спадзяюся, вы ўсё зразумелі і прыпомніце, што такое радасць. Бывайце здаровы, дзядуля!

І знік.

Хамяк не паспеў адказаць. Ён увайшоў у камору і ўбачыў на падлозе маленькі сіне-зялёны Мячык. Здзівіўся і спытаў:

— Ты чаму застаўся?

— Я, дзядуля, Мячык тваёй дачкі.

— Дачкі? Якой?

— Мілачкі. Памятаеш, яна доўга плакала, калі ты мяне схаваў? Думала, што згубіла. І я плакаў.

— Ты, можа, унучкі маёй? — не паверыў Хамяк. — У мяне ўжо ўнучкі ёсць.

Хамяк узяў Мячык і выйшаў у двор. Ударыў Мячыкам аб зямлю — і злавіў яго. Яшчэ ўдарыў і злавіў. І яшчэ. Нібы ў гульні, калі дзеці пералічваюць імёны. Пры кожным удары — новае імя.

Неяк само сабой сказалася:

— Я ведаю пяць імён... Унучак маіх. Таццянка — раз!.. Надзейка — два!.. Марылька — тры!..

Тут мячык адскочыў убок, і Хамяк засмяяўся:

— Ой, збіўся! Пачну з Марылькі... А лепей запрашу ўнучак у госці. На ўсё лета! Няхай гуляюць у парку, радуюцца.

**ВІСАРЫЁН ГАРБУК**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАЎСТВЕ

18

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Гульня ў рыфмы

Гуляюць дзве каманды. Адна каманда дае слова (гэта можа рабіць капітан, для якога ўся каманда рыхтуе словы, або члены каманды па чарзе падымаюць руку і па знаку капітана называюць слова), другая падбірае слова ў рыфму (гэта можа рабіць кожны з удзельнікаў). Адказваць трэба адразу ж, не больш як праз тры секунды, каб атрымаць права весці гульню. Не здолелі падабраць слова — зноў давядзецца вытрымаць на сабе атаку „нападаючай" каманды, і калі яна праўдзе пяць неадбітых „атак", значыць, перамога за ёю.

*В а р ы я н т:* Спосаб гульні той жа, але ўмовы іншыя: калі на дадзенае слова каманда праціўніка рыфму не падабрала, адпаведнае слова (ці спалучэнне слоў) гаворыць той, хто патрабаваў рыфму, безумоўна, ён павінен мець яе напагатове, і тады, акрамя перамогі каманды, вядзецца яшчэ асабісты рахунак (выдаюцца фішкі, ставяцца палачкі і да т.п.).

## На вуду зла́віў парася

Дзеці любяць рыфмаваць словы, з захапленнем займаюцца гэтым. Каб гульня была не толькі вясёлая, але і карысная, трэба пэўным чынам скіроўваць іх увагу на сугуччы слоў, выхоўваць уменне лагічна ўспрымаць сэнс кожнага слова і эмацыянальна — сэнс усяго выказвання.

Настаўніца прадыктавала сказ: *Хлопчык на вуду злавіў парася* — і многія вучні на поўным сур'ёзе пачалі яго запісваць у сшыткі. Але некаторыя здзівіліся, засмяяліся, пачалі папраўляць:

— Вы няправільна прачыталі! Мабыць, трэба *карася*, а не *парася*! Парася ж не рыба, у рэчцы не плавае.

Гэта „памылка", як і разлічвала настаўніца, абудзіла ў дзяцей жаданне самім прыдумваць такія смешныя сказы і нават складаць вершыкі:

*Дзе на ўзмежках сінія*
*Верасы,*
*Спелыя калышуцца*
*Валасы.*

Гэтыя вершыкі падобны на загадкі: тут трэба ж адгадаць, што калышуцца *каласы*. А адгадваць заўсёды цікава. Паспрабуйце наладзіць такую гульню.

Пачынаць трэба з загатовак (яны спатрэбяцца таксама для „сапсаванага тэлефона" і іншых гульняў): *снег — смех, лёд — мёд, дзень — цень, вораг — порах, рака — рука, вада — бяда, бук — гук — жук — лук - сук — тук — фук* і інш. Занятак сам па сабе цікавы, і можна нават правесці конкурс.

Для малодшых можна зрабіць вясёлае лато: на адным баку карткі — тэкст, напрыклад:

*Мама з бочкамі пайшла*
*Па дарозе ўздоўж сяла,*

а на другім баку — адпаведны тэксту малюнак-жарт. На другой картцы — малюнак: па дарозе ідзе мама з дочкамі. Калі патрэбнае слова ніхто не знайшоў, можна моўчкі паказаць кантрольную картку.

*В а р ы я н т:* Удзельнікі гульні ўтвараюць дзве групы. Адной раздаюцца кантрольныя карткі. А другая група па чарзе падыходзіць да стала, выцягвае карткі, кожны чытае, што на ёй напісана. Адваротны бок карткі — малюнак, ён бачны ўсім. Той з першай групы, у каго адпаведная картка, павінен „паправіць" таварыша, калі ён памыліцца.

*(працяг у наступным нумары)*

<u>Пішуць вучні</u>

# МАЯ ВЁСКА — ПРЫБУДКІ

Прыбудкі — цяпер маленькая вёска. Складаецца з дзвюх частак: „фермы" і „сяла". У абедзвюх іх цікавая гісторыя.

Дзе цяпер „ферма", калісьці жыў пан. У яго былі два дамы (у адным з іх жыў потым мой дзедка, на вушаку дзвярэй гэтага дома выразана „1795 год"; у 1952 годзе раскінуў яго і пабудаваў нанава, а ў другім жылі Нічыпарукі, але таксама развалілі яго). У пана былі таксама карчма, вялікая сажалка, млын і шмат зямлі. У яго працавалі парабкі, якія жылі ў сяле. Займаліся яны таксама рамяством — рабілі драўляныя вазы, плугі, сошкі, бароны, ярмы і ўсё гэта прадавалі. На сажалцы людзі маглі лавіць рыбу — было там яе шмат: шчупакоў, карасёў і іншае. З часам сажалка заплыла мулам, бо ніхто пра яе не дбаў.

Калі памёр той памешчык, цэлы яго маёнтак пераняла дзяржава і пачала прадаваць яго мужыкам з навакольных вёсак. Майго дзедка прадзед паходзіў з Кузавы каля Чаромхі, купіў дванаццацігектарны участак і перасяліўся на гэту гаспадарку. І іншыя пакупплялі зямлі і пасяліліся на „ферме". Частку панскае зямлі надзялілі таксама на салдацкія агароды тым, хто служыў у царскай арміі 25 гадоў. Парабкі, што жылі ў сяле, засталіся там, купілі зямлю.

Вёску назвалі Прыбудкі, ад таго, што прыбылі сюды людзі з розных бакоў.

Каля Прыбудак расце дуб, які застаўся яшчэ з пушчы. Ён вялізны, разлажысты, з вялікім дуплом. Найстарэйшыя жыхары кажуць, што за памяці іхніх бацькоў і дзядоў быў ён ужо такі магутны.

**ЭВА ЗІНЕВІЧ,**
**вучаніца 8 класа**
**школы ў Крыўцы**



*Стары дуб у Прыбудках запрасіў дзяцей.*

# ВАВЁРКА

Кожная вавёрка ў лесе жыве на сваёй уласнай тэрыторыі, і ў кожнай свае „сталовыя". Там, дзе вавёрка снедала, ад шышак застаюцца толькі аголеныя стрыжанькі і кучкі лускавінак.

Ад адной вавёрчынай „сталовай" да другой па свежым снезе заўсёды цягнуцца сляды — дзве шырокія лапкі і дзве вузкія. Шырокія лапкі — заднія, а вузкія — пярэднія. Так і скача вавёрка па снезе. У ясны зімні дзень вавёркі кормяцца два разы — раніцай і пасля поўдня. Днём адпачываюць у гнёздахгайнах, якія робяць з галінак, лішайнікаў, моху, з тоўстымі сценкамі, што добра засцерагае ад маразоў і непагадзі. Гняздо шарападобнай формы з адным ці двума ўваходамі. У моцныя маразы вавёрка затыкае гэтыя адтуліны мохам і не выходзіць з гнязда.

Люты — пара вавёрчыных гульняў. Спрытныя звяркі з цоканнем і верашчаннем ганяюцца адзін за адным у верхавінах сосnaў і ялін, маланкава пераскокваюць з аднаго дрэва на другое. Кідаюцца ўніз і бегаюць, пакідаючы на снезе сляды ў выглядзе пацерак. На тонкім снезе добра адбіваецца ўсе чатыры лапкі.

У сакавіку ў гняздзе вавёркі з'яўляюцца нованароджаныя дзіцяняты, сляпыя, голыя. Вельмі маленькія, іх маса ўсяго 4 грамы. Дзіцяняты пачынаюць бачыць праз месяц. Другі прыплод у вавёркі ў маі—чэрвені. Працягласць жыцця 4—5 гадоў.

Рыхтуючыся да зімы, вавёрка з восені пачынае хаваць у дуплы арэхі і жалуды. Нарыхтоўвае яна і грыбы, імкнучыся пасадзіць іх у развілінах сукоў і галін так, каб шапка грыба ляжала зверху на абодвух сучках. Высахлы грыб прыліпае да сука, зморшчваецца і моцна трымаецца на ім усю зіму. Падлічана, што кожная вавёрка назапашвае на зіму некалькі сотняў грыбоў.

Максімальная колькасць вавёрак назіраецца праз кожныя 5—6 гадоў, што звязана з ураджайнасцю хваёвых дрэў і кліматычнымі ўмовамі.

**А. КУРСКОЎ**

# Вершы Віктара Шведа

### ЛОГІКА ХУЛІГАНА

— Чаму, гарэзлівы Адаме,
Не ўздрыганула нат рука,
Калі другі чарговы камень
Ты кінуў сёння ў хлапчука?

А на пытанне праз хвіліну
Адам спакойна даў адказ:
— Таму чарговы камень кінуў —
Бо не папаў у першы раз!

### ФАЛЬШЫВЫЯ КАТЫ

— Чаму, Міхась, сцвярджаеш ты
Што ўсе фальшывыя каты?
— Магу падаць на гэта
Такую вось прыкмету:

Учора добры тата
Прынёс ката дахаты.
Прыгледзеўся я трошкі
І сцвердзіў: Гэта ж кошка!

### ПАМЫЙ, ПАЎЛУША, ВУШЫ!

У хаце ўжо крамола:
Ідзе сынок у школу.
Штодзённую праграму
Выконвае тут мама.

— Прызнайся мне, Паўлуша,
Памыў ты сёння вушы?
Паўлуша ёй талкуе:
— Яшчэ ж я добра чую!

### КОЛЬКІ ГАДКОЎ?

— Колькі гадкоў табе? — дзяўчынку
Спыталі каля хаты.
— Залежыць, — адказала Нінка, —
Ці з мамай я, ці з татам.

З гадамі рознымі, прызнацца,
Бывае мне давялося.
Калі я з татам — адзінаццаць,
А калі з мамай — восем...

# КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"



*Памалюй палі пазначаныя лічбамі: 1 — жоўтым, 2 — аранжавым, 3 — чырвоным, 4 — фіялетавым, 5 — блакітным, 6 — зялёным, 7 — карычневым, 8 — чорным колерамі.*

# ЛАГАГРЫФ



1. шлях, па якім ходзяць і ездзяць, 2. яе сталіцай Лондан, 3. птушка, якая лечыць дрэвы, 4. конік, які жыве ў Белавежскай пушчы, 5. экзамен сталасці, 6. пажыўны, белы напітак.

Вылучаныя літары складуць назву вялікай ракі, якая цячэ на ўсходзе Беларусі праз такія гарады як, м. інш., Орша і Магілёў.

Адказаў чакаем два тыдні.




*БАРЫС РУСКО*

**НЕ ЎСЁ СТРАЧАНА**

Зводдаль хвалі
б'юць у бераг лагодней
і недзе з'едлівыя
гінуць думкі.
У далонях месяца
бялеюць ночы,
а сны каханнем
перапоўнены.

**НА ВУЛІЦЫ**

Калі завірухай шуму
завеяна Вуліца,
хаваюся ў палатку слоў
сабраных у пушчы.
І пахам соснаў трапеча Вуліца,
і беллю бяроз,
ялінай хмарыцца
і вербамі ніцымі.
І я ў абдымках дуба
на прыпынку аўтобусным.
І нам па дарозе.

**МАЯТНІК**

Маятнік сячэ прастору часам
на пласты падзей,
упапярок хрыбта,
як папала —
між мары і боль,
уздоўж ночы і дня,
без супынку.
Пакідае сляды:
што было,
што ёсць,
што будзе.
Калі не тут,
то там,
дзесьці
ў заліве,
на адкрытай прасторы поля.

**ПЕРШЫ ВЕЧАР ВЯСНЫ**

Цёплы месяц, як пралеска,
расцвіў на лузе аблокаў.
Срэбрану нітку рыхтуе
папрадусе вясельнай.
Будзе лёгкі вэлюм,
як дых вячэрні.
Садзіся, дзяўчына,
у карэту вясны.

## ПАДБАЙЦЕ АБ КУЛЬТУРУ МОВЫ!!!

**Дарагія хлопцы і дзяўчаты.**

Тыя, хто піша ў „Ніву", прэтэндуючы тым самым у вечны лік яе аўтараў (апублікаванае застаецца!) — Богам малю вас: падбайце аб культуру мовы!! Вы ж добра ведаеце, што мы, беларусы, жывем у ціску расейска-польскіх абцугоў, а гэта павінна мабілізаваць нас да незвычайнае пільнасці ў чысціні нацыянальнае лексікі, граматычнага карыстання ёю. Тым часам наглядаецца ў аўтараў „Нівы" нешта накшталт „комплексу хама": па-польску намагаюцца пісаць акуратна, а па-беларуску, на жаль, без амбітнай самадысцыпліны. Ведаю аргументы ў абарону: запалячэласць (або заруселасць) і да т.п. Я іх не прымаю, яны несур'ёзныя, нават гультайскія. Так апраўдваецца той толькі, у каго няма ахвоты заглядваць у слоўнікі, пісаць чысцюсенькай беларушчынай, інтэлігентна.

Мае прэтэнзіі датычаць не ўзроўню пісьмовага майстэрства, бо не кожнага Бог абдорыў талентам. Справа ў жахліва банальных недаробках, якія немагчыма інакай разумець, як нешанаванне ўласнага аўтарскага імя, ну, і „Нівы". Якога трэба цуду, урэшце, каб выбіць вам з галоваў расейскае разуменне формаў „адказ" (як адмову), „дабавак" (дадатак), „напамінаць" (у сэнсе: нагадваць), „ігра" у значэнні: гульня. Прыкладна падобная неахайнасць наглядаецца ў гэтак жа нясцерпных тут паланізмах: даканаць, паперці, загаспадарыць, трэць, што па-беларуску інакай значыць па чарзе: загубіць, пугнуць, спляжыць, траціна. І яшчэ: свіней беларусы не б'юць, а колюць; зубоў не мыюць, а чысцяць, едуць не да Гайнаўкі, а ў Гайнаўку; звяртаюцца не да гміны, а ў гміну... І гэтак далей. Арыстакратызм абавязвае, а вы ж арыстакраты беларускага духа.

**С. ЯНОВІЧ, Крынкі.**



# САКРАТУ САКРАТАВА

На пачатку 1994 года выйшла ў свет новае выданне раней напісаных і друкаваных колькі твораў лірычнай прозы і аповесці „Сцяна" Сакрата Яновіча, якім аўтар даў цяпер загаловак „Доўгая смерць Крынак". Кніга гэта з'явілася, аб тым сказана ў лаканічным пасляслоўі, дзякуючы фінансавай шчодрасці прыхільнікаў пісьменніка з бельскай фірмы „Амэга".

З той нагоды ў той жа фірме 24 лютага наладжана была і літаратурная вечарына, на якую па запрашэнню гаспадароў ды Сакрата Яновіча прыйшло чалавек дваццаць прыяцеляў, калегаў, дружакоў, саюзнікаў і спагаднікаў аўтара.

Не быў бы Сакрат Сакратам — ён, вядома, адразу заняў месца „настаўніка" і з той „катэдры" засэрвваў рассеўшымся зыркачам доўгую тыраду... пра рэдактара кнігі. На шчасце, аднак, потым, чым далей, тым было цікавей, калі менавіта сустрэча з адналінейнасці пераўтварылася ў аб'ёмнасць дыялогаў, суразмоў і жартаў-спрэчак.

Рэгуляваў, на гэты раз, увесь вячэрні тонус гэтай цікавай, як заўсёды літаратурнай сустрэчы з Сакратам Яновічам, раскідзісты стол, на якім, падняўшы ўверх яшчэ закаркаваныя дулы, пагрозліва маўчала артылерыя бутэлек, напорыста дзэленькалі кілішкі і шклянкі, а пахучасць ды жывапіс прысмакаў быў такі мажорны, што ніякія літаратурныя творы на той час не маглі канкураваць з гэтым кулінарным шэдэўрам. Сакрат прыймчаў з сабою яшчэ пару дзесяткаў ажно дзвюх польскамоўных сваіх кніг, таксама толькі што аддрукаваных. Але ўсёй ягоны маёрат ляжаў на плебейскім падстоліку — нейк сярмяжна і звыш таго пашарэлы ў бляску трыумфальнай закусі побач.

Вось табе і на, падумаў я, зглядзеўшы адразу тыя несуразмерныя сталы. Сеў я, здаецца, роўна пасярэдзіне тых двух стратэгічных пунктаў, каб нацэліцца на слуханне толькі пісьменніка ды задаць яму з майго таго цэнтра бобу сваімі прыхаванымі пытаннямі. Аднак побач паселі жанкі, як кусты бэзу ў маі. Я чуў, як мяне загортвае ў свае фалды іхняя цепльня. Таму, відаць, узамен пытанняў да пашаноўнага маэстра, я, пераблытаўшы свае разумовыя шуфляды, загаварыў таксама як „настаўнік", як потым сказалі добразычліўцы, зусім неўпапад, пра нарматыўнасць пісьмовай літаратурнай мовы, беларускую граматыку і арфаграфію, якую былі бы гвалтам згвалціў пісьменнік... Але халодная хваля раптоўна выдыхнутай саюзнікамі аўтара цішыні збіла мяне да таго з панталыку, што я, замест гыркнуць, як тое робяць у такіх абставінах усе, каб ратаваць свой прэстыж, а можа перш-наперш галаву, „Жыве Беларусь!", ні з таго, ні з сяго ўжо амаль высушанымі губамі ледзь вымавіў: А ўсё-ткі, спадарства, Сакрата трэба бараніць перад Сакратам!.. І змоўк, чуючы, які я малы й мізэрны ў параўнанні з Сакратавай дружынаю.

Бязладдзе думак пра творчасць віднага нашага „белавежца" Сакрата Яновіча, калі я выйшаў ісці дахаты, нечакана абярнулася блытанінай ног. Маім мазгам было сорамна за іх ды за многае іншае з таго вечара і здавалася ім жа, што нават электрычныя слупы былі разумнейшыя за мяне ў той бельскі, пахучы жанчынамі і бэзам, падмарожаны лютаўскі вечар.

Вярнуўшыся, нарэшце, ў сваю малую дзяржаву, значыць, к сабе самому, і трымаючы ўсё яшчэ ў руках Сакратаву чорную кнігу пра смерць несмяротных Крынак, фаліянт, дзе на першай, вітальнай старонцы смалой тушы блішчаў аўтарскі надпіс, як прызнанне ў каханні: *P.S. Чыквін мае рацыю!*, у гэты сакратападобны вечар яшчэ разок я здаўся на міласць майго разумовага апарата. А ён паўтараў зноў, відаць, не без прычыны тое ж, што раіў і раней выспяваць без запінкі на сустрэчы, пачынаючы ад філасофскага тэзіса: бараніць трэ Сакрата перад Сакратам!

Што гэта магло значыць, заходзіў я ў голаў, не надта разумеючы тую філасофскую мудрасць. Ці гэта азначала б, што трэба бараніць у ім талент лірыка перад стратай перапрацавітага эпіка? Ці мо бараніць у ім проста пісьменніка перад бяспамяцтвам палітдзейніка? Бараніць яго натуральную беларушчыну перад ліхам ды непатрэбным моўным эксперыментатарствам? А можа бараніць толькі яго самога перад ягоным „усёведаннем", перад частым словацёкам і беспрычынным маралізаваннем? Ці таксама бараніць перад дружакамі, што пры стале пішуцца ў ягоныя кампаньёны, а пра творчасць сказаць не могуць ні бэ, ні мэ і ўсюды адважна маўчаць? Ці бараніць дый бараніць дзеля самой фантазіі ўжо гэтага таленавітага самародка — для яго самога, для нас усіх? Відаць, варта і трэба...

Як добра, што нарэшце пад'ехаў, спозненны на тры хвіліны, мой драўляны экспрэс-ложак: мне сон-парасон, а Сакрату Сакратава.

**ЯН ЧЫКВІН**

# З ПОЛЬСКАГА ДРУКУ

Кніга Тэрэсы Занеўскай „A dusza jest na Wschodzie", выдадзеная ў Бібліятэцы Беларускага аб'яднання „Белавежа" (1993 г.), ад самога пачатку выклікала незвычайнае зацікаўленне, асабліва ў пісьменніцкім асяроддзі, беларускім ды польскім.

І вось прыемна аднатаваць нам, што ў элітарным польскім штомесячніку „Literatura na Świecie" (1993, nr 12) сп. Аляксандр Самбор апублікаваў своеасаблівую рэцэнзію на гэту кнігу Тэрэсы Занеўскай пад метафарычным, але поўным красамоўнага для нас зместу, загалоўкам „Archipelag białoruskich dusz". Вось некаторыя вытрымкі з гэтай рэфлексійнай рэцэнзіі:

(...) nie ma tu ludzi podobnych do siebie, każdy z autorów wypowiedzi to **samotna wyspa** (***падкрэслена мною — яч***) w morzu problemów, doświadczeń osobistych i odczuć historyczno-kulturalnych, razem tworzą jednak pewien archipelag, któremu na imię miłość do Białorusi".

„(...) Bardzo sympatyczna, a przy tym bardzo trafna, moim zdaniem, jest uwaga odnosząca się do spotkania i współżycia obu, polskiej i białoruskiej, kultur. „To nie zderzenie dwóch światów — mówi Konwicki — dwóch jaskrawych społeczności, od których to zderzenia iskry lecą", z tego spotkania bowiem „powstało coś bardzo dziwnego i bardzo płodnego". Dziwne to wszystko może nie jest, wolałbym to uznać za coś bardzo naturalnego, ale płodne jest to naprawdę. Dla obu kultur, co najważniejsze. I bodaj w tym odkrywajmy największe piękno takich historycznych spotkań i w tym upatrujmy nadziei na dalszą, ale i bliższą przyszłość".

„(...) A na zakończenie powiedzmy jeszcze, że książka Teresy Zaniewskiej (...) to ważna luneta, przy pomocy której wiele najbardziej dziś aktualnych spraw ze stosunków pomiędzy naszymi kulturami można zobaczyć jak na dłoni".

**(яч)**

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка VI

Ва ўводным слове Антона Адамовіча да кнігі „Між берагамі" знайшоў я звестку, якая была для мяне чымсьці выключным, незвычайным, а нават неверагодным. Датычыла рускага радаводу Наталлі Арсеневай. Чытаючы яе творы, змешчаныя ў зборніку „Пад сінім небам", здавалася мне, што маю дачыненне з вершамі паэткі, якая „ад вякоў" звязана з беларускай зямлёй і беларускім народам. Тым часам Антон Адамовіч напісаў адназначна, што Наталля Арсеннева была карэнна рускай і выводзілася з дому, які даў пачатак роду вядомага рускага рамантычнага паэта Міхала Лермантава па лініі маці. Даведаўшыся аб гэтым, стала мне сумна і радасна. Сумна таму, што сімвал беларускага лірызму Наталля не была беларускай, а радасна таму, што знайшлася таленавітая асоба, якая пастанавіла пакінуць сваю нацыянальную і моўную рускую глебу і перайсці на беларускі нацыянальны грунт. Вядома мне было, што на працягу цэлых стагоддзяў выступала адваротная з'ява. Заключалася яна ў тым, што біялагічныя беларусы тыпу Дастаеўскага, Глінкі, Сыракомлі, Манюшкі пакідалі беларускі грунт і пераходзілі ў рускую або польскую культуры. Праўда, быў мне вядомы адзіны прыклад адваротнай паставы. Датычыў ён творчасці Самуіла Плаўніка, яўрэя па паходжанню, які стаўся выдатным беларускім пісьменнікам — Змітраком Бядулем. Наталля Арсеннева была другой асобай, якая дабравольна далучылася да беларускай мовы і беларускай культуры. Ніхто не можа сказаць, што гэтае далучэнне не мела шчырага, сардэчнага характару і што было падыктавана хітрасцю ці тактыкай.

Пасля гэтага пачаў я кахаць Наталлю Арсенневу яшчэ больш шчыра, верна і аддана.

Зразумела, што захапляючыся творчасцю паэткі я стараўся ўявіць яе постаць, яе паставу, яе характар і паводзіны. Многае з гэтай галіны пачэрпнуў я з аповядаў, характарыстык, дадзеных Антонам Адамовічам. Аднак не ўсё атрымаў я ад гэтага выдатнага крытыка.

Даслоўна некалькі дзён таму назад айцец Аляксандр Надсон, вяртаючыся праз Варшаву з Менска ў Лондан, сказаў мне такое, што моцна і каларыстычна ўзбагаціла маё ўяўленне аб постаці гэтай выдатнай паэткі. Сказаў ён, што ў 1990 годзе Наталля Арсеннева, нягледзячы на свае восемдзесят шэсць гадоў, прыехала на аўтобусе з Буфала (ЗША) у Таронта ў Канадзе. Без перапынку праехала каля тысячы кіламетраў, каб узяць удзел у рэлігійнай пілігрымцы. Прыехаўшы з Таронта, не пайшла яна адпачываць, а толькі, пераправуўшыся, узялася за падрыхтоўку вячэры для некалькіх дзесяткаў асоб. Толькі падумайма: васьмідзесяцішасцігадовая жанчына, праехаўшы амаль тысячу кіламетраў, бярэцца за падрыхтоўку вячэры для вялікай грамады людзей!

Так, Наталля Арсеннева не з'яўляецца паэткай, якая творыць, седзячы ў вежы са слановай косці, ізаляваная і аддзеленая ад людзей. Наадварот, стараецца ўтрымліваць кантакты і сувязі з беларускімі выгнаннікамі, якіх лёс закінуў у далёкую Амерыку. Як міфічны Антэй, які чэрпаў новыя сілы, дакранаючыся да зямлі, так і Наталля Арсеннева, адараваная прымусам ад радзімы, не страціла з ёю повязі, бо заўсёды аставалася ў эмацыянальных і фізічных суадносінах з тымі беларусамі, якія, знайшоўшыся на выгнанні, ніколі не пераставалі думаць аб Беларусі і верыць у Беларусь.

Ці ж уся творчасць Наталлі Арсенневай — і тая, якая знайшлася ў зборніку „Між берагамі", і тая, якая вылілася па-за высокія берагі, не з'яўляецца сведчаннем арганічнай сувязі паэткі з вечнай, яе і нашай, Радзімай — Беларуссю?

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# „ПІЛЬНУЙЦЕСЯ АД ІЛЖЫВЫХ ПРАРОКАЎ”

*(Матф., 7: 15)*

У заканчэнні артыкула „Каментарый да каментацыя” („Ніва”, н-р 40 ад 1993 г.) напісаў я так: „Думаю, што на гэтым спынім такія тэалагічныя дыскусіі на старонках „Нівы” з увагі на тое, што мы не падрыхтаваныя да гэтага і не ўпаўнаважаныя”. У згаданым артыкуле, як і раней („Ніва” н-р 29 ад 1993 г.) я імкнуўся паказаць тое, як выглядае навука Праваслаўнай Царквы ў адносінах да поглядаў сп. Шатыловіча („Ніва” н-р 25 і 36 ад 1993 г.). У мяне ўзнікла надзея, што такія сур'ёзныя тэалагічныя пытанні, якія часта з'яўляюцца догматамі, не будуць абмяркоўвацца непадрыхтаванымі да гэтага людзьмі. На жаль, як бачна з артыкула „Ці мытнік Левій быў евангелістам?” („Ніва” н-р 8/1994 г.) мае спадзяванні і надзеі не збыліся.

Тое, што піша аўтар у сваім апошнім „тэалагічным” артыкуле (а таксама і ў артыкуле „Ці Ісус Хрыстос меў родных братоў па маці?” — „Ніва” н-р 36/1993 г.), не маюць нічога супольнага з навукай Праваслаўнай Царквы. З увагі на тое, што сп. Шатыловіч — праваслаўны, ён урэшце павінен усвядоміць свае памылковыя погляды і вывучыць пазіцыю Царквы, а не прапагандаваць свае меркаванні, выцякаючыя з распрацовак заходніх „вучоных”. Царква не лічыць гэтых „сучасных” аўтарытэтамі. Царква, якую заснаваў Сам Хрыстос і якая існуе ўжо 2000 гадоў усё тое, што напісана ў Свяшчэнным Пісанні, тлумачыць вуснамі Святых Айцоў і Настаўнікаў. Але аўтар згаданага артыкула, не ведаючы скарбніцы Праваслаўнай Царквы, не валодаючы адпаведнай тэалагічнай падрыхтоўкай, бярэцца за бескрытычнае распаўсюджванне поглядаў, з якімі праваслаўнаму нельга згадзіцца.

Навука Царквы абапіраецца на веры ў Бога, а яе фундамент — Боскае адкрыццё (Божественное откровение). Поўнасцю і дасканала Боскае адкрыццё прынёс на зямлю Сын Божы, Гасподзь наш Ісус Хрыстос, а распаўсюджвалі яго па ўсёй зямлі Яго апосталы і вучні. Гэтая навука была зацверджана Усяленскімі Саборамі. Калі хто не прызнае гэтай навукі, дык хай адкажа сам, чым гэта пагражае!

Згодна Святой Традыцыі з апостальскіх часоў аўтарам першага Евангелля называюць Апостала Матфея. Была яна напісана ў 60-х гадах I стагоддзя на арамейскай мове, а потым ператалумачылі яе на мову грэчаскую. Лейтматыў Евангелля ад Матфея — паказаць, што ў Хрысце, у яго жыцці і дзейнасці збыліся ўсе месіянскія прароцтвы Старога Запавету. Было яно напісана галоўным чынам з думкай пра яўрэяў, каб паказаць ім, што Ісус — гэта той Месія, аб якім гаварылі старазапаветныя пракрокі. Заснаваная Хрыстом Царква — гэта сапраўдная месіянская Царква. Евангелле гэтае — самае багаслоўскае з усіх трох сінаптычных Евангелляў. Матфей паказвае, што Ісус быў сынам Давіда (г. зн. выводзіўся з роду цара Давіда), абяцаным Месіям, Прарокам і Царом. Гэтае Евангелле з'яўляецца Царскім, Евангеллем Царства Божага. Гэтую назву сустракаем толькі ў Матфея і то звыш 20 разоў. Гэта Евангелле прароцтваў, якія здзяйсніліся менавіта ў Ісусе Хрысце. З'яўляюцца імі, між іншым:

— Міхей, 5: 1-2 — Матфей, 2: 5-6,
— Ісая, 60: 6 — Матфей, 2: 11,
— Осія 11: 1 — Матфей, 2: 15,
— Ісая 40: 3 — Матфей, 3: 3,
— Ісая, 8: 23 — 9: 1 — Матфей, 4: 15-16.

Сцвярджэнне, што Апостал Матфей не быў Евангелістам, падмацаванае аргументамі заходніх „вучоных” — гэта ніякі доказ. Былі і ёсць такія асобы, якія даказваюць, што Хрыста не было.

Тое, што Евангеллі ад Матфея і Марка (трэба дадаць, што і ад Лукі таксама) напісаны ў падобным стылі, быццам па аднаму ўзору, гэта таксама яшчэ не доказ таму, што Матфей быццам бы значную частку спісаў у Марка. Менавіта і таму, з увагі на падабенства, першыя тры Евангеллі называюцца сінаптычнымі (гр. synopos — родны, падобны). Яны падобныя да сябе з увагі на падборку здарэнняў, навучанняў Хрыста, а таксама літаратурных форм.

Калі прызнаць змест кожнага Евангелля за 100% і параўнаць між сабою тыя фрагменты, у якіх паасобныя Евангеллі прыводзяць ідэнтычны змест, і ўрыўкі, характэрныя толькі аднаму Евангеллю, дык атрымаем наступныя даныя.

| Назва Евангелля | Фрагменты характэрныя аднаму Евангеллю | Фрагменты ідэнтычныя з іншымі Евангеллямі |
|---|---|---|
| Матфей | 42 | 58 |
| Марк | 7 | 93 |
| Лука | 59 | 41 |
| Іаан | 92 | 8 |

Сцвярджэнне, што Евангелле ад Матфея было напісана пасля разбурэння Іерусалімскага Храма ў 70 годзе, несапраўднае. Такое могуць гаварыць толькі тыя, хто „прынцыпова адкідае магчымасць прароцтва і ўсялякага цуду ўвогуле”. Так у раздзеле аб Евангеллі ад Матфея ў кніжыцы „Христос и первое христианское поколение” піша вядомы багаслоў Еп. Касіян. Зрэшты, залежнасць разбурэння храма ў Іерусаліме і эсхаталагічнае здзяйсненне гэтага прароцтва Царква заўсёды разумела як правобраз яго завяршэння (эсхаталогія — навука аб прызначэнні і канчатковых мэтах свету і пасмяротных лёсах чалавека).

Каб тлумачыць прароцтвы, як і кожны любы фрагмент Свяшчэннага Пісання, трэба ведаць падставу, на якой можна зрабіць гэта. Гэтым фундаментам з'яўляецца навука Царквы. Толькі тады можна правільна зразумець усё тое, што змешчана ў Божым Слове. Але тлумачачы і паясняючы Свяшчэннае Пісанне паводле сваіх меркаванняў, свайго розуму, ці паводле ўсякага роду „вучоных”, можна дайсці да недакладных ці нават фальшывых высноў. На захадзе дзейнічаюць цяпер сотні, а можа ўжо і тысячы розных сект, груповак, якія хаця і называюцца хрысціянскімі, дык у сапраўднасці ў іх няма нічога супольнага з навукай Хрыста. Да гэтага давяла, між іншым, свабодная інтэрпрэтацыя Свяшчэннага Пісання.

Усе прыведзеныя ў згаданым артыкуле фрагменты ці прыклады тлумачацца недакладна або нязгодна з навукай Царквы. Вось некалькі з іх:

**— Матфей, 16: 28** — у гэтых словах гаворыцца не аб паўторным прыходзе Хрыста на зямлю, а толькі аб Яго Праабражэнні (далей чытай главу 17), і сапраўды былі такія, што перад сваёй смерцю дачакаліся Царства Нябеснага і пабачылі ў ім Сына Чалавечага — Хрыста. Гэтыя людзі — то апосталы Пётр, Якуб, Іаан, якім Хрыстос адкрыў на Гары Фавор частку гэтай славы (царства), у якой калісьці вернецца на зямлю.

**— Матфей, 24: 34** (у друку 24: 24 — памылка) — **„род сей”** не абазначае тых, якія тады жылі, але верных, г. зн. сапраўдных хрысціян, якіх ніхто не пераможа, не знішчыць, якія будуць вечна; **„усё гэта будзе”** — г. зн. разбурэнне Іерусаліма, землятрусы, войны, голад, ілжэпрарокі, распаўсюджванне Евангелля. Такім чынам сапраўдныя хрысціяне, нягледзячы на ўсе здарэнні пратрымаюцца да паўторнага прыходу Хрыста на зямлю.

**— Матфей, 24: 42** — падвяргаюцца сумненню словы Збаўіцеля і выказваюцца думкі, што былі яны дапісаны пазней. Сэнс гэтых слоў заключаецца ў наступным — калі людзі ведалі б аб дню сваёй смерці, дык парупіліся б усё падрыхтаваць на гэты дзень. Хрыстос не дае ім, а менавіта і ўсім людзям, адказу і хоча, каб усе пастаянна былі пільнымі.

Вышэйпрыведзеныя факты даказваюць, што нельга самавольна інтэрпрэтаваць Свяшчэннае Пісанне, калі перавышае гэта нашыя магчымасці і толькі нямногіх Бог надзяліў такім дарам.

У падобны спосаб можна было б згодна з навукай Царквы растлумачыць правільна ўсе прыклады прыведзеныя сп. Шатыловічам (таксама і цудоўнае размнажэнне хлеба і рыб), але каб дакладна гэта зрабіць, спатрэбілася б не адна, але некалькі старонак друку. Зрэшты, я ў далейшым падтрымоўваю свой тэзіс, што „Ніва” не з'яўляецца тэалагічным тыднёвікам і выкліканне такіх дыскусій лічу непатрэбным. Калі хто лічыць сябе праваслаўным, дык не можа падрываць догматы Царквы (я думаю і пра згаданыя папярэднія два артыкулы) і Яе навуку.

Спадар Шатыловіч, я прапаную, каб Вы перасталі прадстаўляць на старонках „Нівы” так сур'ёзныя тэалагічныя пытанні. Гэта бяссэнсіца. Для нас, усходніх хрысціян, аўтарытэтаў у Царкве не бракуе. Прапаную, каб Вы пакінулі заходнія „вучоныя” распрацоўкі і спачатку пазнаёміліся з інтэрпрэтацыяй Царквы. А вось некаторыя працы:

1. Толкование на Святаго Матфея Евангелие, т. 1 і 2 Св. Иоанном Златоустом.
2. Благовестник — Толкование на Святыя Евангелия Блаженнаго Феофилакта архиепископа Болгарскаго.
3. Христос и первое христианское поколение — Еп. Касиян, Париж 1954.

Гэта вядомыя працы і думаю, што ў Варшаве можна іх знайсці без клопату. Там жа ёсць Мітраполія, духоўныя, а калі не памыляюся, то ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта знаходзіцца кнігазбор даваеннага факультэта праваслаўнай тэалогіі гэтай навучальнай установы. Першую з названых кніжак я гатоў даслаць па пошце.

Яшчэ раз паўтараецца сітуацыя, калі ўсхваляем чужое, не зведаўшы свайго. Думаю, што шкада траціць час на чытанне артыкулаў, якія ў духоўным сэнсе нічога добрага не даюць, а лепш сёння пазнаёміцца з навукай Царквы. Тым больш, што і час на гэта адпаведны, паколькі ўвайшлі мы ў перыяд Вялікага Посту.

Мае словы і заўвагі прашу лічыць не як зласлівую крытыку, а толькі як спробу дапамагчы ў зразуменні некаторых асноўных пытанняў.

**С.Н.**

# ШКОЛА АТЭІЗМУ

Я думаў, што сп. Д. Шатыловіч, які ў кожнай „Ніве” змяшчае гістарычныя нарысы з жыцця першых хрысціян, сам з'яўляецца адданым хрысціянінам; аднойчы нават пахваліў я яго. Аказваецца аднак, што гэта не была яшчэ праўда, — свае сапраўднае аблічча паказаў ён у артыкуле „Ці мытнік Левій быў евангелістам?” („Ніва” н-р 8 ад 20 лютага г.г.). Здзіўляюся вельмі, як гэта „Ніва” магла змясціць такую ману. Хаця? „Ніва” — гэта свецкая газета і да яе пасылаюць свае матэрыялы камуністы, людзі, як кажуць, „з вышэйшай сферы”, прафесары, інжынеры... Ведаем іх! Але каб „сатанінскімі версетамі” заваліць столькі месца ў „Ніве” — гэта ў галаве не месціцца! Д. Шатыловіч у сваёй „працы” па-майстэрску падрывае аўтарытэт і святасць кожнага з чатырох Евангелляў. Ён знаходзіць „факты”, што Евангелле ад Матфея было напісана не ім, а кімсьці іншым і спасылаецца на даследаванні заходніх бібліёлагаў. А чаму не на ўсходніх? А гэта з простай прычыны: у Праваслаўнай Царкве не было ерэтыкаў і ашуканцаў, якія маглі б падрываць святасць Бібліі. І не ведае бедны інжынер, што т. зв. „заходнія бібліёлагі” ніколі не мелі і не маюць ніякага аўтарытэту і пашаны сярод вучонага Свету і ў Царкве сапраўднай. Бо як могуць мець, калі крывавую інквізіцыю спрадвеку лічаць апраўданым фактам! Толькі атэіст адважыцца напісаць наступныя словы: „Меркаванні, што язычнікаў трэба прыцягаць да хрысціян, паявіліся пад уплывам навукі ап. Паўла, намнога пазней, чым гэтаму навучаў Ісус”. Значыць, Ісус — другая асоба? Значыць, Ён не Бог?! Альбо: „Многія вучоныя лічаць, што яно паявілася дзесьці паміж 85—100 г. У Евангеллі чатыры разы гаворыцца аб збурэнні Іерусаліма і Іерусалімская храма і напамінаецца аб праследаваннях хрысціян, якія былі ў 81—96 гадах. Хто быў аўтарам першага кананічнага Евангелля — невядома. Быў ім напэўна яўрэй з дыяспары, які даказваў лепш ад усіх іншых евангелістаў, што ўсе ўчынкі Хрыста былі рэзультатам прароцтваў Старога Запавету. Паводле яго Ісус быў **пасіўным інструментам** даўно азначанага намеру і думкі Бога. Сам Ісус ад пачатку ведаў свой лёс і ад яго не мог уцячы”. Хітры вывад! Словы „пасіўны інструмент” цалкам не падыходзяць да слоў „Сын Божы”. Пасіі, пасіён (італьян. *passione*, ням. *Passion* ад лац. *passio* — пакута) абазначаюць пакуту, але „інструмент”? Выбачце — Хрыстос быў жывым Сынам Божым, а не „інструментам”. Трэба лічыцца са словамі!

З высноў Шатыловіча можна лёгка здагадацца, што евангелісты выкрадалі словы і думкі адзін ад аднога. Значыць — былі плагіятарамі і іхнія прароцтвы гэта нішто іншае, як казкі для дзяцей і дарослых. Тым больш, калі даведваемся, што Евангелле было напісана дзесьці паміж 85—100 г. І мо як „мастацкі” твор? А прыпомнім прароцтва Хрыста сказанае вучням: „Ці бачыце ўсё гэта? Запраўды кажу вам: не астанецца тут каменя на камені: усё будзе знішчана” (Матф., 24: 2). Д. Шатыловіч не прыводзіць гэтай фразы, толькі пераконвае, што калі Евангелле было напісана так позна, многа гадоў пасля разбурэння Іерусалімскага храма, значыць, евангеліст пеpажыў і бачыў сваімі вачыма гэтае разбурэнне і такім чынам яно не магло ў ніякім выпадку быць прароцтвам. Д. Шатыловіч — тонкі майстар „мадэрнізацыі” Слова Божага, стараецца яго падважыць і пасеяць недавер. І калі хто слаба ведае Евангелле (хаця яму трэба верыць у глыбіні сэрца) і прачытае тэкст „Ці мытнік Левій быў евангелістам?”, дык будзе мець сумненні і недавер да Жывога Евангелля і рознае сабе падумае.

Пра такіх мудрацоў, якія стараліся і стараюцца паставіць свой розум вышэй мудрасці Божай, Хрыстос ясна сказаў: „... Слаўлю Цябе, Айцец, Гаспадар неба і зямлі, што Ты ўтаіў гэта ад мудрых і разумных і выявіў тое дзецям” (Матф., 11: 25). Шатыловіч не баіцца Бога, які сказаў у Адкрыцці Іаана Багаслова: „... Калі хто даложыць да гэтага, наложыць на яго Бог плягі, напісаныя ў кнізе гэтай; І калі хто адыме ад слоў кнігі прароцтва гэтага, адыме ў яго Бог долю ягоную з кнігі жыцця і з месца святога і з напісанага ў гэтай кнізе” (Адкр., 22: 18—19). А. Шатыловіч не толькі далажыў, але яшчэ і па-майстэрску высмеяў.

Для ўсіх веруючых Евангелле **не падлягае ніякаму асуджэнню** і мы свята ў яго верым. Калісьці запыталі вялікага Льва Талстога, якая найлепшая і наймудрэйшая кніга ў свеце; ён адказаў: Евангелле. Святы апостал Пётр сказаў: „Бо ніколі прароцтва не выказвалася воляй чалавечай, але выказвалі *яго* святыя людзі Божыя, ведзеныя Духам Святым” (2 Пят, 1: 21). Ці не ведае аб гэтым Д. Шатыловіч?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ ЖЫВЕ, АЛЕ...

За намі ўжо традыцыйны агляд „Беларуская песня". У ім удзельнічае кожны год больш ста выканаўцаў. Некалькі соцень гледачоў прыходзіць паслухаць беларускія песні. Аднак, я баюся, што гэта можа быць нашая лебядзіная песня. Чаму?

Падчас адкрыцця раённага агляду ў Бельску (27 лютага г.г.) Васіль Ляшчынскі заўважыў: „У часы, калі гіне беларускае жывое слова — жыве яшчэ наша песня". Вось так — яшчэ жыве і гэта добра. Але як доўга яна будзе жыць, калі загіне наша родная мова на Беласточчыне? Балючае пытанне. Усе бачаць, што засталася нам яшчэ бадай толькі песня, як сведчанне існавання беларусаў на гэтай зямлі. І не дзіўна, што агляды і канцэрты беларускай песні карыстаюцца вялікім зацікаўленнем. Дзякуючы спевакам, можна наталіць душу прыгажосцю роднай культуры.

У гэтым годзе паслухаў я з прыемнасцю выступленні на раённых аглядах у Беластоку і Бельску. Якое ж багацце беларускіх мелодыяў: ад аўтэнтычнага фальклору да сучасных рытмаў! На сцэне выступаюць розныя выканаўцы: салісты, дуэты, вакальна-інструментальныя гурты, вакальныя вясковыя калектывы, вялікія хоры. Разам спяваюць бабулі і ўнукі. Здаецца, што ўсё ў парадку, але чамусьці становіцца трывожна на сэрцы. Можа таму, што такія агляды паказваюць ілюзорнае багацце беларускай культуры на Беласточчыне? Справа, між іншым, у тым, што большасць удзельнікаў агляду „Беларуская песня" гэта старэйшыя людзі, якія гуртуюцца ў вясковых калектывах і трох хорах. Моладзь найчасцей у сваім рэпертуары мае толькі дзве беларускія песні патрэбныя для конкурсу. На працягу гадоў маладыя спевакі паяўляюцца і хутка знікаюць. Выключэнне складае Ала Дубец, якая валодае незвычайнымі вакальнымі здольнасцямі і мае музычную падрыхтоўку. Мастацтва яе спеву, па-мойму, перавышае ўжо рамкі такога агляду. Такая знакамітая вакалістка заслугоўвае выступаць на эстрадах многіх краін. Варта і трэба, каб яе майстэрствам захапляліся беларусы, і не толькі, ва ўсім свеце.

Радуе яшчэ бельская „Маланка", якая гуртуе даволі маладых спевакоў і паспяхова дзейнічае пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Вось гэта прыклад выдатнай працы на культурнай ніве!

На Беласточчыне многа музычных талентаў, але ці маюць магчымасць маладыя беларусы развівацца ў сваёй культуры? Адно правядзенне агляду раз у год не вырашыць праблемы. Без забеспячэння належнай інструктарскай падмогі і адпаведных варункаў беларуская песня можа быць ужо лебядзінай у нас. Неабходны цэнтр для беларускай культуры на Беласточчыне з філіяламі ў многіх мясцовасцях.

Падчас агляду ў адной песні малады хлопец спяваў: „Вы ўсё не бачыце нічога... Няма ўжо дарогі... Ашуканствам нас кормяць... Я хацеў бы прасіць: падаруй нам цуд. Я хацеў бы крычаць: падаруй нам цуд!"

А вось некаторыя выхваляюцца, што „Беларуская песня" — жыве. Святкуюць юбілеі 40-годдзя, 30-годдзя „заслужаных" калектываў на Беласточчыне, якія спяваюць: „Мы ўжо моцна пастарэлі — сівыя бабулькі". Даражэнькія, то ж вядома, што надыходзіць пасля старасці. Варта аб гэтым памятаць!

**В. ХРЫСЦІНІН**

# XXV АГЛЯД — І ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ



*Архіепіскап Сава віншуе арганізатара — старшыню БГКТ Яна Сычэўскага.*



*Міністр Пятро Краўчанка ўручае сваю ўзнагароду Элі Мацкевіч з Гданьска.*

*Працяг са стар. 1*

У **сучаснай песні** ніхто на гэты раз не мог дараўнаць **Алі Дубец** (узнагарода В. Цімашэвіча). Другім месцам „падзяліліся" **ЮркаНалівайка і Юрка Астапчук** з Гарадка (сталасць і маладосць беларускай песні на Беласточчыне). Трэцяя была **Эля Мацкевіч** з Гданьска, якая заўважальна вырасла мастацка ад папярэдніх аглядаў песні (узнагарода П. Краўчанкі). Журы вылучыла **Аляксандра Раманчука** з Дубяжына, а спецыяльную ўзнагароду атрымала **Ніна Цыванюк** з Гарадка (вельмі ж палітычныя прыпеўкі).

Сярод дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў сучаснай песні найлепшым быў **квартэт „Арпа"** з Беластока (М. Дыкаловіч, М. Міхальчук, М. Лашэвіч, П. Лаўрашук) і **трыо Аля Дубец, Марыся Вярбіцкая і Аня Богус** з Беластока. На другім месцы — сёстры **Анна і Ірэна Петкун** з Беластока і гурт **„Рэаль"** з Гайнаўкі (браты Кавальскія і Янка Крыньскі (гэты гурт вырастае на нашую „Грамаду"). Трэцяе месца (і ўзнагарода фірмы „Эльвімэкс") — **Янка Хоха і Марта Драль** (гурт з найбольш цікавым, сучасным і кранаючым гучаннем). У гэтай катэгорыі вылучана таксама гурт **„Пронар"** з Нарвы (прыемнае, хаця савецка-піянерскае гучанне хору з трыццаці дзетак у слушнай песні „Мір Зямлі", дзе знайшоў месца і пагражаючы нам „заакіянскі меч") і дуэт з гайнаўскага белліцэя **Агнешка Лапінская—Эля Сідарук** (цудоўныя, крыштальна-чыстыя галасы з шырокім дыяпазонам, і, як не дзіўна — беларускі ліцэй і немагчымасць вымаўлення „л").



*Марта Драль і Янка Хоха (ІІІ месца) чамусьці не выступілі на гала-канцэрце.*



*„Арэшкі" (ІІ месца) чакаюць свайго выхаду на сцэну.*



*„Каласкі" з Беластока (І месца) — маладосць, краса...*



*Хор беластоцкага аддзела БГКТ мае хвіліну адпачынку (ІІ месца).*



*Ганна Стрыха і Мікола Бушко з гайнаўскага хору.*

Сярод хораў найлепш ацэнены былі маладзенькія бэгэкатоўскія **„Каласкі"** з Беластока (атрымалі ўзнагароду „Пронару") і **хор Гайнаўскага дома культуры** (узнагарода В. Цімашэвіча). Другое месца — **„Васілёчкам"** з Бельска (узнагарода асацыяцыі Польшча—Беларусь) і **хору беластоцкага аддзела БГКТ.**

На гала-канцэрце ў нядзелю 6 сакавіка выступілі найлепшыя і менскі ансамбль „Бліскавіца", а вялі яго Валянціна Ласкевіч і Віктар Губіч. На гэтым канцэрце прысутнічала больш дзвюх тысяч гледачоў, а сярод іх — архіепіскап Сава, віцэ-маршалак Сейма РП Аляксандр Малахоўскі, віцэ-прэм'ер Владзімеж Цімашэвіч, міністры Рэспублікі Беларусь: Пятро Краўчанка, Анатоль Бутэвіч, Віктар Гайсёнак, Уладзімір Гілеп, старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, намеснік старшыні таварыства „Радзіма" Уладзімір Навіцкі, пасол РБ ў Польшчы Уладзімір Сянько... Як сказала Г. Сурмач, ніводнае мерапрыемства такога тыпу ў Беларусі, нават у амаль двухмільённым Менску не прыцягнула б такой колькасці зацікаўленых, не мела б такой атмасферы.

Жыве беларуская песня на Беласточчыне, жыве Беларусь!

**МІРА ЛУКША**
**фота Міры Лукшы і Сяргея Грынявіцкага**

# ЧАКАЙ МЯНЕ!

Пакуль Ф. Хлус і М. Юр прадаўжаюць свае аповяды аб зданях і пачварах Беларусі, я хацела б прыпомніць некалькі легенд, звязаных з „нашымі” нячыстымі сіламі. Гэтыя гісторыі расказвалі мне старэйшыя жанчыны ў нашай аколіцы.

У вёсцы З. жылі дзяўчына Жэня і хлопец Валодзя. Валодзя прысягаў дзяўчыне, што будзе з ёю, калі нават бацькі не дазволяць пабрацца ім шлюбам. Тады прыйдзецца пакінуць вёску і ісці ў белы свет.

Прыйшоў час выбірацца хлопцу ў армію. Валодзя абяцаў пасля службы згуляць вяселле.

— Чакай мяне, Жэня! — прасіў на развітанне.

Дзяўчына чакала. Раз прыехаў у водпуск. Амаль кожны дзень быў дома ў каханай. Пасля адпачынку Валодзеў след прапаў. Казалі, што выслалі яго на варту ля лясной дарогі і там недзе знік. Не знайшлі і яго цела.

Жэня чакала. Не дапускала да сябе нават думкі, што Валодзі можа не быць у жывых. Калі ўсе спалі, яна сядала каля акна, глядзела ў цемру і шаптала:

„Чаму не прыходзіш, Валодзя? Чаму мяне не забярэш? Ты ж абяцаў, што заўсёды будзем разам!”

Калі так сядзела, раз заўважыла пад акном свайго каханага.

— Адчыні, Жэня, — сказаў той.

Узрадаваная дзяўчына накінула на сябе хустку-валянку і пабегла ў сені. Калі адчыніла дзверы, Валодзя не падышоў да яе, не абняў, толькі сказаў:

— Жэня, хадзі да мяне.

Дзяўчына нават не зачыніла дзвярэй. Валодзя сеў на каня, падхапіў Жэню ў паветра і пасадзіў перад сабою.

Ехалі моўчкі аж да могілак. Тут дзяўчына задрыжала. Ужо ведала, што трапіла ў лапы нячыстае сілы. Але нічога не сказала.

Прывід саскочыў з каня, памог злезці дзяўчыне. Падышоў да магілкі, у якой была раскапаная яма і сказаў:

— Ты ўсё непакоіла мяне, хацела быць са мною, то ідзі ў гэтую вось яму.

— Ты ідзі першы, Валодзя, я ж не ведаю, куды мне ісці далей.

Здань паслухалася. Калі ўвайшла ў зямлю, Жэня кінула на магілу сваю хустку. Перажагналася і пабегла. Ляцела, як на крылах, аж дабегла да нейкай хаткі, дзе жыў старэча, які капаў магілы. Дзяўчына села за стол, на якім ляжала Евангелле, разгледзелася па хаце — на сценах іконы, з мэблі шкапчык, драўляны ложак, столак ды печка. Супакоілася. Расказала дзеду сваю гісторыю.

— Пачакай тут да раніцы, — сказаў гаспадар. — Ранкам я пайду ў вёску, папрашу свайго брата, каб з'ездзіў да тваіх бацькоў і сказаў пра тваю бяду.

Раптам хтосьці назойліва пачаў грукаць у дзверы:

— Адчыні! — гэта быў голас Валодзі. — Ідзі за мною!

Дзверы ламаталі, трэсліся, але не адчыняліся.

— Ён сюды не можа ўвайсці, — сказаў стары. — Святая кніга і іконы яму не даюць.

Потым усё сціхла. Дзед лёг спаць, але Жэня не магла задрамаць. З ляку ўсё на ёй траслося.

Раніцай дзядок сказаў дзяўчыне ісці з ім на могілкі. У лесе знайшлі асінавае дрэва. Стары выразаў з яго кол і загадаў Жэні ўбіць яго ў тую яму. Дзяўчына так і зрабіла. Вярнуліся дадому. Дзед адправіўся ў вёску, а Жэні прыказаў маліцца. Потым прыехаў за ёю бацька.

Жэня доўга не пажыла. З перапуду прычапілася да яе нейкая хвароба.

Не трэба непакоіць памерлых. Нельга кідацца ў роспач, плакаць і зваць іх назад, да сябе, на зямлю, — кажуць людзі.

**АЎРОРА**

# МАРЦІН

Было гэта зімою 1942 г. Вывезлі мяне на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Трапіў я на Шлёнск на гаспадарку да нейкага баўэра. Летам працаваў я ў полі, рабіў тое, што загадаў гаспадар. Зімой работы было намнога менш. Вечарам збіраліся такія як я хлопцы і дзяўчаты, якія працавалі ў іншых баўэраў. Раз, засядзеўшыся да позніх гадзін ночы, вярнуўся я дахаты і хацеў паспаць. Але ж зараз світанак. Будзіць мяне баўэр і гаворыць, каб я ехаў у лес секчы дровы. Не хацелася мне ўставаць і адказаў я яму, што сёння ў мяне свята. Ён шанаваў і нашыя традыцыі і тады толькі спытаўся: „Якое свята?”. „Усіх Святых”, — адказаў я.

На другі дзень надвор'е было вельмі брыдкае, падаў снег з дажджом, а мне трэба было ехаць у лес. Таму я зноў паінфармаваў гаспадара, што сёння таксама святочны дзень. Немец традыцыйна, але ўжо са злосцю спытаў: „Якое свята?” А я адказаў, што св. Марціна. „То не мог ён учора святкаваць разам з усімі, калі было Усіх Святых?” — здзівіўся баўэр.

Нягледзячы на тое, што мне хацелася святкаваць, баўэр загадаў ехаць па дровы. Будучы раней у лесе, я прыкмеціў бярлогу, у якой спаў мядзведзь. Паехаў тады ў лес і пабыўшы пару мінут, вярнуўся з пустымі санямі дадому і гавару гаспадару, што Марцін не дазваляе мне дровы секчы. Сеў баўэр на сані і едзе са мною ў лес, а я вязу яго ў месца, дзе спіць мядзведзь. Паказваю яму на ўзгорак і гавару, што калі я пачаў стукаць сякерай, дык з гэтага месца выйшаў нейкі велізарны звер і чалавечым голасам загадаў, каб я ў дзень яго свята выйшаў з лесу, бо ён сёння адпачывае і не жадае, каб яму перашкаджалі. Немец не паверыў. Быў ён трохі кульгавы і насіў пры сабе „кулясу”. Падышоў ён да гэтага бугра і шпарнуў палкай пару разоў у заспанага мядзведзя. Мядзведзь сарваўся і так зароў, што аж коні дыбам сталі. Баўэр хутчэй, чым спартсмен, дабег да саняў, а я не пашкадаваў біча коням, пакуль з лесу не выехалі.

Едучы дадому немец заўважыў, што побач дарогі бегла мыш. Зняў шапку і нізка ёй пакланіўся. „Што вы робіце?” — пытаюся баўэра. — Гэта толькі мыш”. „Я ведаю, што меншы, але як вырасце, будзе такі як той у лесе”, — адказаў немец.

**АЛЯКСАНДР БАРТАШЭВІЧ**




## Зайздрасць

Чалавек зайздросны
У глыбі душы злосны.
Усё не так —
Д'яблу ён сваяк.

Каму трапіцца шчасце —
Ён жадае няшчасця.
Як каму вядзецца —
Яму сэрца рвецца.

Сусед купіў самаход —
Зайздросны аж разявіў рот,
Не мог гэтага дараваць,
Не мог у душы не зляваць.

Зайздроснаму заўсёды шкада,
І гэта яго асабістая бяда.
Калі чалавек нешта прыдбае,
Ён не засне, дакарае:

— Я разумнейшы, о так!
Ён — дурань, басяк.
Хоча мяне абагнаць —
Сваю гаспадарку падняць.

Зайздросны заўсёды пярэчыць,
Відаць, свае нервы так лечыць.
А зайздрасць — хвароба адвечная,
Усім яна небяспечная.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ВІРАВАНКА




1. ініцыятар пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, 2. здраднік, 3. самаходная сельскагаспадарчая машына, 4. рабочы пакой, 5. вялікая афрыканская дзяржава, 6. кіраўнік музычнага канцэрта, 7. кашуля, 8. частка Біблії, напісаная царом Давідам, 9. беларускі першадрукар, 10. сённяшні месяц, 11. паўднёваамерыканскі змагар за незалежнасць ад Іспаніі (1783—1830), 12. гурт беларускай песні з Бельска.

(ш)

**Адказ на крыжаванку з 5 н-ра:**

**Гарызантальна:** эпас, дзяды, кнораз, Саул, энзім, елачка, гамеапат, лекар, калецтва, партызан, лямпа, батальён, камуна, фобія, літр, Кігалі, лімон, Ніка.

**Вертыкальна:** зззянне, адліга, пралеска, склеп, волат, марка, марцыпан, Лагерлёф, ліпа, кара, атом, вада, аналітык, Яновіч, псіхоз, манія, бугай, Талін.




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЯБЛЫЧНЫЯ БЛІНЫ**

Прадукты:
*5 кіслых яблыкаў,*
*5 шклянак пшанічнай мукі,*
*4 яйкі,*
*5—8 дэкаў дражджэй,*
*10 дэкаў масла,*
*каля 1 шклянкі малака,*
*лімонная скурка, соль, тлушч.*

Спячы яблыкі, працерці іх праз сіта. Падрыхтаваць рошчыну з дражджэй, паўшклянкі мукі і малака. Калі падрасце, дадаць яблычны пюрэ, перацёр, растопленае масла, рэшту мукі, яйкі, прыправы. Перамяшаць. Калі цеста атрымаецца занадта густое — развесці яго вадой. Калі ізноў падрасце, смажыць бліны.

**ГАСПАДЫНЯ**




Астроне! Мне прысніўся сон, які ніколі раней мне не сніўся. Бачу вялізныя карціны, аж да столі, амаль такія высокія, як сцены. Пакої яшчэ не зусім гатовыя, але памаляваныя белай алейнай фарбай, даволі прыгожыя. Сястра маёй сяброўкі дапамагае іх вешаць. Брыдка пазавешвала куток, але быў мастак, ён накрычаў, каб яна тыя карціны зняла і больш не вешала. А я памагаю вешаць. Пакоі прасторныя. Іх, бадай, тры. Гэтыя пакоі прызначаны мне, і карціны таксама. І ўсё. Што гэты дзіўны сон можа абазначаць?

**Майка**

Дарагі Астроне! Мне сны без прычыны не сняцца, ды і не сняцца часта. Але, калі ўжо нешта прысніцца, дык споўніцца. Першы сон мяне не напужаў, здаецца ён нядрэнны, але другі — перапужаў не на жарты.

Прыснілася мне мама. Але як?! Ідзе яна, а я гляджу на яе ззаду — такая стройная, прыгожая. Валасы цемнаватыя, але вельмі ж прыгожа зачэсаныя. Туфлі на высокіх абцасах. Усё разам — што прыгажэй і быць не можа. Я гляджу і захапляюся выглядам мамы.

А вось другі, гэты мне ні ўдзень, ні ўначы спакою не дае. Ляжу я ў ложку, каля мяне стаяць дантысты — маладая дзяўчына і хлопец. Дзяўчына вырывае мне зуб. Зуб кутні. Ён сапсаваны, спарахнелы. Выцягнула яго дантыстка разам з нейкай сапсаванай косткай. Цячэ кроў. Яна кажа, каб я тую кроў аблізала.

Яшчэ прыснілася, што сястра мая (яна за граніцай) памерла. Я вельмі плакала.

**Анна**

Майка! Твой сон гаворыць за тое, што ёсць у цябе сябры, якія ў вочы надта добранькія, а ў сапраўднасці робяць усё, каб табе пашкодзіць (карціны тыя). А мо гэта сястра тваёй сяброўкі, што так старалася гэтыя карціны паразвешваць?! Бо, здаецца, што яна найбольш падыходзіць да тых фальшывых сяброў. Шчырыя сябры — адзінкі (той мастак).

Анна! Першы твой сон абазначае нейкія клопаты, хаця і звязаны яны будуць з нечым добрым (нейкі прыбытак, падарожжа). Ды і трэці сон (пра сястру) абазначае працу і дабрабыт. Але што датычыць другога сну, дык ён сапраўды нядобры. Нейкая смерць вісіць над некім хворым, „спарахнелым” сярод тваіх родзічаў па крыві. Зуб быў вырваны і цякла кроў. Дзякуй Богу, што зуб быў кутні, дык і родзіч мо будзе далёкі.

**АСТРОН**





“Niwa”
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## З конкурсу прыпевак газеты „Звязда"

Скаргу я ў ААН паслала,
Хай нясе папера.
Цяжка жыць на свеце стала
Без СССРа.
*(Марыя Корвель)*

Мне прысніўся СССР,
Не магу заснуць цяпер.
Усю ноч ляжу і мару:
Шчэ крыху б таго кашмару.
*(Віктар Шніп)*

Аддзяліліся ад Расіі:
„Эх, бывай, старэйшы брат!"
Час прайшоў і запрасілісь:
„Забярыце нас назад!"
*(Іван Міхайлоўскі)*

Ой, якая неспадзеўка,
Што навокал дзеецца:
Да Расіі, як да дзеўкі,
Нашы хлопцы клеяцца.
*(Галіна Зінкевіч)*

## СЕНТЭНЦЫІ

Дарога п'яніцы — гэта сума крывых паміж бутэлькамі.

* * *

Забіваючы — палавініш сябе.

* * *

Пагадненне — дачка разважнасці.

* * *

Пражыўшы дзень,
усміхніся або заплач.

* * *

У світанні — рошчына змроку,
у змроку — рошчына світання.

**БАРЫС РУСКО**






*— Дык гэта хворы пад наркозам стаў анекдоты расказваць.*

Малюнак Р. Друкман

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Мамачка, чаму Ленка мае такі разрэз замест сюсіка? — пытаецца малы Міколка, убачыўшы сястрычку ў ванне.

— Бо калісь упала на нож, — не доўга думаючы адказала маці.

— То наша бабуля пэўна ўпала на сякеру?..

* * *

У бальніцы медсястра гаворыць лекару:

— Пан доктар, калі даю хворым лякарствы, адчуваю ў іх моцна прыспешаны пульс. Як з гэтым справіцца?

— Зашпіліце два гузікі пры вашым дэкальтэ.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, у мяне такая дзіўная высыпка.

— Гэта сіфіліс, шаноўная пані.

— Якое шчасце! А то думала, што гэта адзёр і пазаражваю дзяцей.

* * *

У вайсковай бальніцы:

— Пан доктар, ці можна памяняцца ложкамі з тым салдатам, што ляжыць каля дзвярэй?

— Чаму?

— Таму, што калі прыйдзе медсястра, то спярша змазвае яму гемарой, а пасля тым самым пэндзлікам маё горла.

* * *

Прыходзіць баба да лекара.

— Чаму вы так доўга не прыходзілі?

— Я хварэла.

* * *

Прыходзіць баба да лекара і трымае гранату ў руцэ.

— Што гэта мае значыць?

— Я — секс-бомба.

* * *

Мікола цэлы тыдзень п'е да адвалу. Пасля тыдня вяртаецца ноччу дадому. Жонка, якая хацела, каб ён кінуў п'янства, пераапранулася за смерць і выйшла раптоўна з шафы:

— У-уу! За гэтае п'янства пойдзеш у пекла!

— Ой, ну і пералякаўся; думаў, што гэта мая жонка.

* * *

Размаўляюць тры калгасніцы: дзве маладыя, а трэцяя старая і глухая.

— У нас растуць агуркі тоўстыя як рука і доўгія як палова рукі, — гаворыць паказваючы першая.

— А ў нас агуркі тоўстыя як рука і доўгія як рука, — паказвае другая.

— Размер няважны, — умешваецца глухая, — важнае, каб не піў гарэлкі і меў добрае сэрца.

Сабраў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ЗДАНІ

### Максім-кніжнік

Як ужо згадвалася, літаратурныя здані вядуцца не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі. Арэал існавання вызначаецца беларускім культурніцкім асяродкам, але ён узнікае не толькі каля беларускіх школаў, бібліятэкаў ды асветніцкіх цэнтраў, але і каля магіл беларускіх пісьменнікаў, якія параскіданы па ўсім свеце — ад мора да мора — а таму здані, якія час ад часу з'яўляюцца ў месцах пахаванняў, ані ў якім разе не трэба блытаць з могілкавымі, бо яны маюць цалкам іншыя схільнасці і ўпадабанні.

Мясцінай, святой і жаданай для кожнага свядомага беларуса, стаў крымскі курорт Ялта з Лівадзійскімі могілкамі, дзе пахаваны Максім Багдановіч, вядомы ў культурніцкіх асяродках як Максім-кніжнік. А таму было б дзіўна, калі б у Ялце не з'явілася літаратурная здань славутага паэта.

У апошнія гады ў каляпісьменніцкіх колах разгарнулася кампанія за перанос труны з прахам Максіма-кніжніка на Бацькаўшчыну. Пазалетась для складання каштарыса па эксгумацыі выправілася ў Ялту ініцыятыўная група прыхільнікаў гэтай антыхрысціянскай акцыі на чале з камендантам Музея-кватэры паэта Ё. Б-лядзкім. У першы ж дзень ад вартаўніка, якому беларускі ўрад яшчэ ў даваенныя часы даручыў догляд магілы (гадоўлю кветак і падфарбоўку пяціканцовай зоркі на тыпавым помніку для чырвонаармейцаў) Ё. Б-лядзкі пачуў, што неаднаразова ў сне да вартаўніка прыходзіў Максім-кніжнік і папярэджваў, што калі той яшчэ хоць раз падфарбуе на ягонай магіле камуністычны сімвал, то вартаўнік страціць не толькі жыццё, але і шмат што іншае. Ё. Б-лядзкі, як праўдзівы каталік, не мог даць веры, што нябожчык можа з'яўляцца пасля смерці, але на ўсялякі выпадак вырашыў спраўдзіць словы вартаўніка. Адшукаўшы магілу, камендант Музея-кватэры і ягоная сакратарка П. К-ва ўбачылі, што зорка сапраўды даўно не аднаўлялася, а праз яе абрысы, з-пад аблушчанай фарбы праступае выява Пагоні. Зрабіўшы абмеры магілы, каб вызначыць аб'ём земляных працаў, яны вярнуліся ў гатэль „Арыядна" і залеглі ў ложак. Уначы Ё. Б-лядзкі пачаў задыхацца, а прачнуўшыся, убачыў перад ложкам цень, у якім з жахам пазнаў прывід Максіма-кніжніка. Ё. Б-лядзкі паспрабаваў пабудзіць П. К-ву, але паненка спала як забітая. Прывід паэта сурова папярэдзіў каменданта Музея-кватэры, каб той не чапаў ягонае магілы, а перад тым, як знікнуць, перадаў яму сшытак — свой „Эратычны дзённік" і загадаў абавязкова яго апублікаваць. Кінуўшы развітальны позірк на распранутую П. К-ву, здань Максіма-кніжніка папярэдзіла, што ў Ё. Б-лядзкага ніколі не будзе эрэкцыі, калі той не выканае волі паэта.

Гэтая гісторыя не мае заканчэння — тым больш, што спрэчкі вакол мэтазгоднасці перазахавання і аўтэнтычнасці „Эратычнага дзённіка" працягваюцца і дагэтуль, але дакладна вядома адно: П. К-ва і Ё. Б-лядзкі больш не спяць у адным ложку...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**




Даражэнькае Сэрцайка! У „Ніве" н-р 10 ты адказвала на ліст разбітай Вандзі, хлопец якой, развітаўшыся як ні ў чым не бывала і запакаваўшы на дарогу Вандзіны катлеты, паехаў у родныя мясціны жаніцца з амерыканкай. А Вандзі сказаў, што проста едзе да бацькоў. Вандзя была ўжо не семнаццацігадовай, бо ўжо працавала, закончыўшы вышэйшую школу, ды і то ўсё гэта выбіла яе з каляіны жыцця. Яна страціла веру ў чалавека. А цяпер вось уяві маё становішча, якое, на жаль, вельмі напамінае становішча Вандзі, ды толькі з больш трагічным заканчэннем.

Я — студэнтка. Два гады таму назад у нашым горадзе паявіўся бізнесмен, які быў яшчэ нежанаты. У нас была філія яго фірмы, і прынамсі два разы ў тыдзень ён наведваўся сюды. Калі прыязджаў, любіў у свабодныя хвіліны пасядзець у кампаніі, асабліва дзявочай, ды на віно і смакоцце не шкадаваў. Усе дзяўчаты ашалелі ад захаплення. Рэдка ж сустрэнеш, каб такі чалавек быў малады і багаты, а да таго яшчэ такі прыгожы, як ён. Я таксама глядзела на яго з захапленнем, нават не ўяўляючы яшчэ, што калісьці пазнаёмлюся з ім. Праўда я частавата бачыла яго ў кавярні, за яго столікам заўсёды сядзела шмат дзяўчат, якім я ў глыбіні душы вельмі зайздросціла.

Але шчасце, здавалася мне яшчэ да нядаўна, не абмінула мяне. Усё здарылася зусім неспадзявана. Мы з сяброўкай зайшлі ў наш гатэль, бо яна хацела нешта купіць у іхнім кіёску. У холе якраз паявіўся ён. Я нават не ведала, што мая сяброўка з ім знаёма. А яна кінулася адразу да яго, кінуўшы мяне пасярэдзіне хола. Я села пад пальмай і чакала. Бізнесмен зыркнуў на мяне і нешта сказаў сваёй сяброўцы. Паволі яны наблізіліся да мяне. Сяброўка стаяла, скромна апусціўшы вочы, а ён без ніякай сарамлівасці пачаў запрашаць мяне на „дрынка", які мы маглі б выпіць у рэстаране гатэля. Я адчувала, што сяброўка незадаволена, бо мы мелі ісці ўтраіх, але ўрэшце я падумала, што мы ж прыйшлі сюды разам, дык чаму не маглі б разам і вярнуцца... Ну, я згадзілася. Сяброўка нават забылася, што мела нешта купіць у кіёску. У рэстаране мы павячэралі, выпілі, як ён казаў „дрынка", а тады мой новы знаёмы запрапанаваў, каб мы ўтраіх прадоўжылі сустрэчу ў яго пакоі. У рэстаране купіў каньяк і шампанскае, ды нейкае піццё і мы пайшлі наверх.

Сядзелі нядоўга, калі з'явілася ў пакой яшчэ некалькі чалавек. Данеслі гарэлкі. Было надта весела і прыемна. Мне гаспадар пакоя падабаўся з кожнай хвілінай усё больш. А я яму. Урэшце госці пачалі разыходзіцца, сяброўка сядзела незадаволеная, што ён абдымаў мяне. Надулася, сабралася ісці і кінулася да мяне: „Ідзеш ці не?". Я ўсміхалася і нічога не гаварыла, бо хлопец моцна трымаў мяне ў сваіх абдымках. Яна ўзлавалася, закруцілася на пяце і выйшла.

Высветлілася, што каханак з гэтага хлопца быў яшчэ лепшы, чым яго выгляд. Быў цудоўны, нястомны, непаўторны. Я цалкам аддалася яму. Мы сустракаліся штодзень на працягу цэлага тыдня. Я закахалася па вушы. Але праз тыдзень бізнесмен выехаў, а нехта сканстатаваў: „Мусіць да вяселля падрыхтавацца, бо ўжо дзён дзесяць усяго засталося!". У мяне ў сярэдзіне ўсё замерла.

Чакала яго доўга, але ён не паяўляўся. Дачулася, што паехаў з жонкай у Італію на „мядовы месяц".

Мая роспач можа і мела б нейкія межы, калі б... я не сцвердзіла, што зацяжарыла. Мо яшчэ б і паспела пазбыцца цяжарнасці, але ніхто не хоча мне яе сёння перарваць. Даведалася мама, а яна кажа, што трэба радзіць, бо магу потым зусім не мець дзяцей. Што ты параіш, Сэрцайка?

**Таня**

Таня! Бадай тое, што і мама. Прынамсі дзіця будзе мець багатага і прыгожага бацьку. Але занадта на дапамогу не разлічвай: з гэтымі бізнесменамі ўсяк бывае. Маму трэба слухаць ад пачатку, тады і клопатаў менш будзе.

**СЭРЦАЙКА**